PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 50 (2170) Год XLII Беласток 14 снежня 1997 г. Цана 1 зл.



*Новыя ўлады БГКТ. Злева: Валянціна Ласкевіч, Ян Сычэўскі, Тамара Русачык, Мікалай Нікалаюк.* ФОТА З АРХІВА

# XIII З'езд дэлегатаў БГКТ

Аляксандр Максімюк

**30 лістапада г.г. у Беластоку прайшоў з'езд дэлегатаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прыняло ў ім удзел 68 дэлегатаў з 88 вылучаных на гэты форум. Старшынёю Таварыства другі раз стаў Ян Сычэўскі. З'езд працягваўся ад 10 да 17 гадзіны, а бляску і веліччы гэтай падзеі прыдаваў удзел у ёй вялікай колькасці высокіх гасцей з Польшчы і Рэспублікі Беларусь...**

### Высокія госці

Нарада пачалася ад польскага гімна і песні „Магутны Божа”, якая пару гадамі назад разглядалася ў Беларусі ў якасці дзяржаўнага гімна, але ім так і не стала. Словы ...*зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай*... у зале БГКТ побач дэлегатаў выслухалі: Іван Пашкевіч (намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь), Віктар Бурскі (пасол РБ у Польшчы), Мікалай Крэчка (консул РБ у Беластоку), Павел Латушка (віцэ-консул РБ у Беластоку), Ігар Хадасевіч (ад Міністэрства замежных спраў РБ), прадстаўнікі міністэрстваў культуры, асветы ды прадстаўнікі гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта, а з польскіх гасцей — былы прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч, пасол Сяргей Плева, Казімеж Пуцілоўскі (дырэктар беластоцкага тэлебачання), Збігнеў Кшывіцкі (старшыня беластоцкай сацыял-дэмакратыі) ды прадстаўнікі Ваяводскай управы, куратары асветы і святары Анатоль Конах ды Рыгор Місяюк.

### Справаздачы

Справаздачу з дзейнасці БГКТ за мінулую кадэнцыю зачытаў старшыня Таварыства Ян Сычэўскі. Была яна абшырнай — чытанне цягнулася звыш гадзіны, таму згадаю тут толькі некаторыя яе матывы. Старшыня БГКТ паведаміў пра беларускі аматарскі рух, фальклорныя і эстрадныя калектывы, культурныя мерапрыемствы. Гэтых апошніх Таварыства арганізавала звыш 300, а ўдзельнічала ў іх, як ацэньваецца, 60 тысяч гледачоў. Самае віднае мерапрыемства Таварыства — фестываль „Беларуская песня” пад ганаровым патранатам В. Цімашэвіча. Аматарскія калектывы, — сказаў старшыня, — найпрыгажэйшая форма беларускай культуры. На працягу гісторыі Таварыства іхні характар памяняўся з тэатральных на песенныя. Фінансаванне дзейнасці Таварыства дзяржаўнымі ўстановамі за апошнія гады адзначылася ростам сродкаў адведзеных на гэтую дзейнасць (апошняя датацыя — звыш 200 тыс. зл.), а таксама і ростам прыхільнасці саміх устаноў да БГКТ. У арганізацыйных справах старшыня заключыў, што гурток, як асноўнае звяно Таварыства, перастаў існаваць у традыцыйнай форме, а падставай дзейнасці Таварыства стаў аддзел. У сувязі з адміністрацыйнай рэформай краіны Таварыства павінна імкнуцца стварыць моцныя павятовыя аддзелы. Не ўдалося Таварыству палепшыць стан навучання беларускай мовы, які ўтрымліваецца ад некалькіх гадоў на адным узроўні. Не ўдалося таксама, з-за недахопу сродкаў, заснаваць прэсавы орган Таварыства, але, адзначыў старшыня, Таварыства павінна развіваць сувязі са сродкамі масавай інфармацыі ды дбаць пра іхнюю аб'ектыўнасць і прафесійнасць у дачыненні да Таварыства. У сваёй справаздачы старшыня Таварыства згадаў таксама пра ініцыятыву пабудовы помніка праваслаўным ахвярам вайны і ўзброенага падполля ды выказаў здзіўленне, што некаторыя беларускія асяродкі ад ініцыятывы гэтай адмовіліся.

[працяг ☞ 4]

## У нумары

# Мы прачыталі

*Przed czterema laty SLD zdobywała władzę pod hasłami obrony „bezpartyjnych fachowców", wszystkich „skrzywdzonych i poniżonych". Zgodnie z marksistowską dialektyką hasła zostały zweryfikowane przez praktykę. Wojewodą białostockim został dr Andrzej Gajewski, który wcześniej był sekretarzem POP w Państwowym Szpitalu Klinicznym. Na podobnej zasadzie „bezpartyjni fachowcy" objęli większość stanowisk w aparacie władzy województwa białostockiego.*

*Obecnie znów mamy proces wymiany ekipy rządzącej. Biuro polityczne do spraw personalnych w województwie białostockim formalnie nie wchodzi w skład AWS i rezyduje przy innej ulicy.*

*Kurier Poranny, nr 268*

Не змяшчаем адрас беластоцкага палітбюро таму, што прашэняў кандыдатаў беларускага паходжання на працу ў беластоцкіх установах там не разглядаюць.

* * *

*Kandydat Zarządu Regionu NSZZ „Solidarność" Zdzisław Piekarski nie sprawdził się do tej pory na żadnym stanowisku. On po prostu olewał swoje obowiązki.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 269*

Swój chłop!

* * *

*Na Białorusi istnieje pojęcie „drugi budżet". Oczywiście, takiego budżetu nikt nigdzie nie uchwala, ani nie zatwierdza. Jest tajny, chociaż wszyscy o nim wiedzą. To swoista „czarna kasa" Łukaszenki, która powstaje z zysków komercyjnej działalności urzędu prezydenta. Zasoby „czarnej kasy" porównywalne są z oficjalnym budżetem państwa i z niej właśnie opłaca się prezydenckie akcje w rodzaju upominków dla chłopców i nauczycieli, uroczystych zjazdów, zwoływanych aby sławić prezydenta. Oczywiście, tych pieniędzy nie starcza na ratowanie gospodarki, a reformy byłyby dla reżimu Łukaszenki po prostu samobójstwem, bo właśnie socjalistyczna gospodarka jest warunkiem potęgi Łukaszenki. Przetrwać białoruski koszmar ekonomiczny może tylko tak ogromne państwo jak Rosja. Łukaszenko jest zresztą potrzebny rosyjskim komunistom. Dlatego im z głośniejszym trzaskiem gospodarka białoruska leci w przepaść, tym intensywniej Łukaszenko przedziera się na Kreml. Białoruś gotów złożyć w posagu za urząd w Moskwie.*

*Gazeta Wyborcza, nr 270*

* * *

*Супрацоўніцтва Лукашэнкі з рэакцыйнымі расейскімі коламі надта спрыяе ягоным памкненням на Усход. Без падтрымкі Расеі ягоныя спробы штурму Крамля выглядалі б чыстай авантурай. Пытанне „што далей" не выглядае вельмі складаным. Падобна, што дзеючыя асобы ўжо вызначаліся адносна сваіх планаў на будучыню. У вялікай расейскай гульні Беларусь павінна стаць пасагам Лукашэнкі, які збіраецца ладзіць аб'яднальнае вяселле. Ну, а потым паспрабуе паставіць над абцас усіх: і ненавісных рэфарматараў, і тых хто яму сёння дапамагае. Аднак вынік гэта спаборніцтва за Крэмль абазначае страту Беларуссю дзяржаўнай незалежнасці.*

*Беларусі няма адкуль чакаць дапамогі. Захад назірае за падзеямі ў Менску без энтузіязму, але і без намеру ўмяшацца ў мясцовыя справы. Застаюцца толькі тыя людзі, для якіх лёс Бацькаўшчыны цалкам звязаны з іх уласным лёсам.*

*Беларускія Ведамасці, н-р 4*

* * *

*Łukaszenko marzy o Kremlu, chce mieć broń jądrową. Rok temu rosyjscy politycy z premierem Czernomyrdinem i przewodniczącym Rady Najwyższej Sieleźniowem odegrali niechlubną rolę w uregulowaniu konfliktu między prezydentem i parlamentem Białorusi. Rosjanie zachowali się tak samo jak Stalin i Mołotow w 1939 r., którzy pili za zdrowie Hitlera, błogosławili jego przygotowania do wojny,* — сказаў Сямён Шарэцкі, былы старшыня парламента Беларусі.

*Gazeta Wyborcza, nr 273*

* * *

*Паважаныя таварышы! Мы сабраліся з вамі на зыходзе 1997 года. Практычна ўжо вызначыліся яго вынікі ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, сацыяльным і культурным развіцці нашай краіны. Набірае дынаміку прамысловая вытворчасць. У цэлым эфектыўна кіруе грамадска-палітычнай сітуацыяй выканаўчая ўлада на чале з урадам. Багацей становіцца духоўнае жыццё народа. Умацоўваецца правапарадак. Кожны грамадзянін рэспублікі з'яўляецца ўдзельнікам гістарычнай творчасці, стваральнікам дастатку і міру ва ўласным доме,* — сказаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падчас „рэспубліканскай нарады па пытаннях стратэгіі развіцця прамысловага комплексу".

*Народная газета, н-р 239*

З размераў надрукаванага даклада спадара Рыгоравіча выглядае, што ў падобным стылі гаварыў ён недзе каля дзвюх гадзін.

* * *

*У вёсцы Мышкавічы, цэнтральнай сядзібе саўгаса „Рассвет" адбылася нарада з кіраўнікамі і спецыялістамі Магілёўскай вобласці, у якой браў удзел прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Лічбы, якія прывёў Аляксандр Лукашэнка сведчаць пра тое, што ад калісьці знакамітай на ўвесь Савецкі Саюз беларускай гаспадаркі, куды людзі прыязджалі вучыцца, мала што засталося.*

*Звязда, н-р 213*

# З мінулага тыдня

**Польскую выбарчую унію левых сіл** прапануе стварыць перад маючымі адбыцца самаўрадавымі выбарамі лідэр Уніі працы **Аляксандр Малахоўскі**. На яго думку, стварэнне такой уніі з'яўляецца неабходнасцю і павінна яна прыцягнуць палітычныя асяроддзі моладзі левай арыентацыі. Лідэры УП пакрытыкавалі таксама намер урада павысіць цэны ацяплення, цёплай вады, электраэнергіі і падатак VAT на тэлефонныя паслугі.

**Міністр замежных спраў** выступіў да прэзідэнта РП з прапановай адклікаць **Эву Спыхальску** з пасады пасла Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь, — паведаміла варшаўская штодзёнка „Życie". Лідэр БНФ **Зянон Пазняк** сказаў газеце, што Спыхальска — гэта фатальны пасол, якая стараецца выключна толькі пра тое, каб не раздражняць **Аляксандра Лукашэнку**, а беларуская апазіцая абмінае цяпер польскае пасольства ў Менску. Газета сцвярджае, спасылаючыся на дыпламатычныя крыніцы, што дзейнасць спадарыні пасол абмяжоўваецца толькі да прымання рашэнняў.

**Шлёма Мінц** — адзін з найбольш вядомых скрыпачоў свету, даў канцэрт у беластоцкай філармоніі. Артыст абяцаў яшчэ раз прыехаць у горад нараджэння свайго бацькі і ўсю выручку ад канцэрта перадаць дзеля стварэння Цэнтра даследавання мінулага жыхароў Беластока і ўсяго рэгіёна. „Гэта павінен быць цэнтр, у які яўрэі, палякі, украінцы, беларусы ці цыганы, сёння раскінуты па ўсім свеце, маглі б звярнуцца за дапамогай знайсці сваё карані, даведацца кім былі іхнія дзяды, чым займаліся, дзе жылі. Тоеснасць кожнага чалавека — вельмі важная справа, і можна яе фарміраваць, распараджаючыся такімі ведамі", — сказаў сусветнай славы віртуоз.

**У Кодні**, на польска-беларускай мяжы, была здадзена ў карыстанне новая пагранічная застава. У будынку, апрача службовых памяшканняў, знаходзіцца яшчэ шэсць кватэр. Інвестыцыя каштавала 1 400 тыс. зл. Ва ўрачыстым адкрыцці ўдзельнічаў галоўны камендант Пагранічнай аховы падпалкоўнік **Марэк Бяньkоўскі**, які заявіў, што да канца 2000 года на ўсходняй мяжы будзе пабудавана яшчэ пятнаццаць такіх аб'ектаў з мэтай лепшага ўшчыльнення будучай граніцы Еўрапейскага Саюза.

**Прадстаўнікі беларускай страхавой кампаніі „Альвена"** падпісалі дамову з Беластоцкім аддзяленнем страхава-рэасекурацыйнага таварыства „Polisa" SA ў справе абслугі і разлікаў польска-беларускіх страхаванняў. Да гэтай пары выкананне гэтых заданняў знаходзілася ў кампетэнцыі цэнтралі гэтага таварыства ў Варшаве. Дамова робіць магчымым страхавую абслугу польскіх турыстаў у Беларусі і беларускіх грамадзян, якія наведваюць Польшчу. Паводле **Міхала Станяшка** — віцэ-старшыні „Polisy", такое рашэнне дазволіць, улічваючы распалажэнне Беластока, больш спраўна і паспяхова абслугоўваць кліентаў.

**U źródeł wiary** (Ля вытокаў веры) — так будзе называцца польскамоўная праваслаўная перадача ў Беластоцкім тэлебачанні, якая выйдзе ў тэлеэфір яшчэ ў снежні гэтага года. Будзе яна трансляваецца ў кожную нядзелю пасля абеду па 35 канале.

**Забарона імпарту** малочнай вытворчасці ў краіны ЕС з пачаткам снежня г.г. стала вынікам кантролю, праведзенага заходнімі інспектарамі на малочнатаварных заводах у Радзыне-Падляшскім, Кольне. Сямятычах і Ловічу. Двум апошнім прадпрыемствам былі прад'яўлены заўвагі.



# Весткі з Беларусі

**Новы саюз не атрымаўся**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка зрабіў заяву, у якой выказаў пункт гледжання беларускага кіраўніцтва на цяперашняе і будучае Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Як адзначаецца ў дакуменце, мэты, якія былі абвешчаны ў 1991 годзе ў пагадненні аб стварэнні СНД, не дасягнуты, таму што не ўсе яго ўдзельнікі імкнуліся да гэтага з самага пачатку. „Мы, лідэры краін СНД, — падкрэсліваецца ў заяве Аляксандра Лукашэнкі, — як адказныя палітыкі проста абавязаны на маючым адбыцца пасяджэнні Савета дзяржаў дамовіцца аб кроках, здольных ператварыць Садружнасць у эфектыўнае рэгіянальнае эканамічнае аб'яднанне. Калі гэтага не зрабіць і працягваць працаваць у ранейшым рэжыме, то праз дзвятры гады СНД можа ператварыцца ў дыскусійны клуб, а то і зусім знікнуць як рэальная структура".

**Размовы аб членстве**

Міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч знаходзіўся ў Швейцарыі, дзе прымаў удзел у рабоце Камітэта па эканамічных, сацыяльных і культурных правах ААН. Сустрэўся ён там з Клодам Фрэем — членам парламента Швейцарыі, які назначаны дакладчыкам Савета Еўропы па пытанні членства Рэспублікі Беларусь у гэтай еўрапейскай арганізацыі. Антановіч праінфармаваў пана Фрэя аб ходзе эканамічнай, сацыяльнай і палітычнай рэформы ў рэспубліцы, а таксама аб эканамічнай сітуацыі ў краіне ў цэлым. У ходзе сустрэчы была дасягнута дамоўленасць прадоўжыць перагаворы па шырокім коле пытанняў еўрапейскага супрацоўніцтва падчас маючага адбыцца візіту Клода Фрэя ў Менск у пачатку будучага года.

**Пазіцыя МФЖ**

Міжнародная федэрацыя журналістаў, якая мае афіцыйны статус у Савеце Еўропы, неадкладна запатрабавала зняць забарону выдаваць газету „Свабода". Генеральны сакратар МФЖ Эдвін Уайт заявіў літаральна наступнае: „Пакуль у Беларусі не будуць у поўнай ступені забяспечаны свабода друку і свабода слова, міжнародная супольнасць вымушана трымаць гэту краіну ў ізаляцыі ад сям'і дэмакратычных дзяржаў".

**Заява суддзі**

Суддзя Вышэйшага гаспадарчага суда першай інстанцыі Маіна Клімянкова, якая вынесла рашэнне аб спыненні дзейнасці газеты „Свабода", заявіла, што яна ў сваіх дзеяннях кіравалася прававымі нормамі краіны. Аднак гэта рашэнне адказчыкі маюць права ў месячны тэрмін абскардзіць у вышэйшыя інстанцыі. У дадзеным выпадку гэта можа быць наглядное вядзенне ВГС рэспублікі, затым у газеты „Свабода" ёсць права апеляваць далей: да прэзідыума і пленума ВГС.

**Падтрымка „Свабодзе"**

Менская Асацыяцыя падтрымкі сродкаў масавай інфармацыі „Свабоднае слова" атрымала дазвол на правядзенне мітынгу салідарнасці са „Свабодай" 10 снежня. Аднак некаторыя самыя актыўныя грамадзяне не чакаюць ніякіх дазволаў для выказвання свайго пратэсту. 26 лістапада дэпутат Вярхоўнага Савета XIII склікання Валерый Шчукін правёў акцыю супраць закрыцця газеты „Свабода". З 12 да 13 гадзіны ён прайшоў па праспекце Скарыны ад плошчы Якуба Коласа да плошчы Незалежнасці. Шчукін трымаў старонку газеты, на якой было набрана: „Суд выканаў волю прэзідэнта — «Свабоду» закрылі" і лозунг: „Свабоду «Свабодзе»!" Гэтым разам Валерый Шчукін праваахоўнымі органамі не быў затрыманы.

**Бард за кратамі**

На сходзе Гродзенскай рады БНФ былі сабраны каля 7 млн. рублёў для падтрымкі сям'і барда Андрэя Мельнікава, які знаходзіцца ў гродзенскай турме, на суседняй вуліцы ад сядзібы БНФ. Мельнікаў трапіў у Гродна яшчэ ў канцы жніўня, аднак пра гэта па дамоўленасці мясцовыя журналісты не паведамлялі. Пра гэта прасіла жонка барда і адвакат, які меў надзею, што ягонаму падабароннаму будзе зменена мера стрымання. Аднак гэтае зрабіць не ўдалося і звесткі пра барда за кратамі ўсё-такі трапілі ў прэсу. Андрэй Мельнікаў быў затрыманы пагранічнікамі на беларуска-літоўскай мяжы 13 жніўня і яму інкрымінуецца нелегальны пераход граніцы. З таго часу яго толькі двойчы выклікалі на допыт да следчага.

# Больш да Польшчы прывязаны

*(пачатак у папярэднім нумары)*

— Ale ta prosta mowa, to przecież nie białoruska, — сумняваецца спадарыня Кавальчук. — To po prostu nie wiadomo co. Jedno słowo polskie, dziesięć innych. I przeważnie tak rozmawiali ci, co mieli kłopoty z nauką.

Станіслава Кавальчук і Казімеж Нятупскі расказваюць пра гуртох даследчыкаў Янаўскай зямлі. Дзейнічае ў ім шэсць чалавек, мясцовыя інтэлігенты. Гурток цікавіцца рэгіянальнай тэматыкай. Гонар гміны — праславутыя двухуточныя браныя (dwuosnowowe) тканіны. Іх можна сустрэць у музеях не толькі ў Польшчы, але і за мяжой. Для мясцовых гэта перспектыўны спосаб на жыццё. У Доме культуры наладжана выстаўка самых цікавых экспанатаў. Захапляюць яны мастацкасцю, фантазіяй народных ткачых. Зразу хочацца купіць такі дыван ці сурвэту.

— Цяпер мы маем пакупнікоў у ЗША. За адзін дыван можна зарабіць дзесяць мільёнаў (старых злотаў). У Польшчы плацяць па шэсць, — паясняе дырэктар Дома культуры.

У іншай зале стаяць кросны. Там таксама выстаўка вытворчасці, першых прац вучаніц. Народная рукадзельніца Аліцыя Каханоўская вядзе ткацкія курсы для дзяўчат пачатковай школы. Такія заняткі маюць многа аматараў.

— Але не кожны можа навучыцца гэтаму занятку, бо тут патрэбны не толькі зручнасць, але і мастацкае ўяўленне, — паясняюць мае субяседнікі.

Янаўская двухуточная браная тканіна напамінае карціну. Яна пазбягае стандартных узораў. Рукадзельніцы самі прыдумваюць „сюжэт" тканіны і падбіраюць да яго ўзор. Сярод найбольш вядомых ткалляў трэба назваць Аліцыю Каханоўскую, Філамену Круповіч, Людгарду Сянько, Тэрэсу Прызмонт і Галену Малявіцкую. Іх майстэрні ўключаны ў праграму этнаграфічнага турыстычнага шляху народнага рукадзелля.

— За папулярызацыю ткацтва наш асяродак атрымаў узнагароду „Przebiśnieg", — адзначае Станіслава Кавальчук.

Ткацкія традыцыі Янаўскай зямлі сягаюць паловы XVIII ст., — значыць, часоў, калі Антон Тызенгаўз закладаў тут ткацкія мануфактуры. Успамінаецца пры нагодзе згаданая ўжо назва жыхароў з-за леса *шкаце*, якія найхутчэй былі пачынальнікамі гэтай вытворчасці.

Казімеж Нятупскі ўспамінае легенду пра дзяўчат, замкнутых у панскіх мануфактурах. Для мяне — гэта карціна са „Слуцкіх ткачых" Максіма Багдановіча. Але пра паэта Багдановіча ніхто ў Янаве не чуў.

— Вялікую ролю адыграла выкладчыца Варшаўскай акадэміі мастацтва Элеанора Плютынская, — адзначае спадарыня Кавальчук. — Яна заахвоціла ткачых трымацца старых узораў і каларыстыкі. А Даменіка Буйноўская, народная мастачка з Вянгрова ўявіла тканіну тыпу вобраз-карціна. Таму на нашых дыванах так часта сустракаюцца матывы з жыцця вёскі і навакольнай прыроды.

Мае субяседнікі ўспамінаюць пра песенны калектыў „Кросенко". Спявачкі ставяць сабе за мэту культываванне тутэйшай мяшчанскай традыцыі. Дарэчы, Янаў па дваццатае стагоддзе меў гарадскія правы. Зараз карыстаецца статусам вёскі і налічвае 830 жыхароў. Аднак ментальнасць насельніцтва з'яўляецца доказам непарыўных мястэчковых традыцый. У Янаве, як і ў Сухаволі, Васількаве ці Кляшчэлях, людзі вельмі прыязныя і цікаўныя. Мае суразмоўцы ўражваюць сваёй адкрытасцю і гасціннасцю, гатоўнасцю несці дапамогу.

— Zespół śpiewa po polsku, — кажа Станіслава Кавальчук, — bo prostych pieśni nie mają, tylko były jakieś rosyjskie.

Простая мова, на жаль, тут не спалучаецца са словам культура. Яна ўспрымалася хутчэй як фізіялагічная дзейнасць. І ў гэтым якраз найбольшае падабенства тутэйшых людзей да жыхароў Беларусі. Аналогіі можна знайсці таксама ў разуменні гісторыі.

Аглядаю гістарычна-рэгіянальную хроніку з каляровымі здымкамі. Цікава, што пачынаецца яна ад часоў незалежнай Польшчы. Хочаш не хочаш, а прыгадваюцца саветы, для якіх гісторыя Беларусі пачынаецца з вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі.

Спадар Нятупскі супраць гістарычнай хлусні. Найбольш хвалюе яго неаб'ектыўная ацэнка пасляваеннай гісторыі ў Янаве. Бо тут амаль у кожнай вёсцы былі ячэйкі АК.

— Różnie oni wojowali. Często to były sąsiedzkie porachunki, — кажа.

Свае сваіх рабавалі а часам і забівалі. Мясцовыя ішлі *змагацца* за Бебжу, а сюды прыходзілі мазуры.

— W tym AK byli też prawdziwi patrioci. Ale po wojnie mówiono już tylko o Batalionach Chłopskich, których nikt tu nie widział.

У гонар іх змагарскай славы ў Янаве іх імя прысвоілі пачатковай школе. Дарэчы, стаіць яна на ўзгорку, дзе раней быў двор Сапегаў.

У апошніх выбарах у Сейм і Сенат партыя ПСЛ не атрымала належнай падтрымкі. Перамагла Выбарчая акцыя „Салідарнасць".

— Наша гміна сельскагаспадарчая, — кажуць мае субяседнікі. — Тут тыповае землеробства і тыповае беспрацоўе. Многія выязджаюць за працай на Захад і ў ЗША.

Спадар Нятупскі праз некалькі дзён таксама збіраецца ў Амерыку правесці зіму ў дачкі.

— Я калісьці ведаў карэспандэнта „Нівы" з Хільмонаў, — не скрывае сімпатыі ў бок беларусаў Нятупскі.

Пасля хвіліны ўспамінае свой жыццёвы шлях:

— Пасля вайны я выехаў у заходнюю Польшчу. А як вярнуўся ў Янаў, то заўважыў, што забыўся нашай простай мовы. Пашчасціла мне настаўнічаць у Ружаным Стоку. І ведаеце, — узбуджаецца пан Казімеж, — там зноў навучыўся гаварыць па-просту.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Станіслава Кавальчук і Казімеж Нятупскі ля кроснаў.*

# Цэліў у лася, а папаў у каня

**У Арлянскай гміне часта ад паляўнічага ружжа гіне хатняя жывёла. Небяспека пагражае коням і быдлу, якія пасвяцца на міжлясных палетках. Такое ж некалькі гадоў таму здарылася ў Крывятычах і Шарнях, а сёлета — у Рудутах. Сяляне баяцца ўжо на змярканні выходзіць за быдлам у поле.**

Паляўнічая памылка спасцігла таксама **Яраслава Календу** — конегадоўца з Тапаркоў Кляшчэлеўскай гміны. Ягоны статак налічвае 15 коней, разам з жарабятамі, пераважна сакольскай халоднакроўнай пароды. Конегадоўляй займаецца ён ужо сем гадоў.

— 24 кастрычніка г.г. хтосьці са штуцэра застрэліў маё жарабя, а з дубальтоўкі раніў кабылу. Коні пасвіліся ва ўрочышчы Рэпіскі каля Рудутаў, у трох кіламетрах ад Тапаркоў. Ноччу ліхадзей страляў, бо яшчэ ўдзень бачыў я іх жывымі і здаровымі, — гаворыць разжалены селянін. — Дзве кабылы пасвіліся на доўгіх ланцугах, а двое жарабят бегалі свабодна. У пятніцу пад вечар заўважыў я, што адно жарабя ляжыць і з ягонай мызы цячэ пена з крывёю. Пайшоў я да кума з просьбай дапамагчы закапаць падла...

Перад тым, як закапаць мярцвячыну, сталі мы аглядаць труп і заўважылі дзірку пад лапаткай. Паехаў я на пастарунак паліцыі ў Кляшчэлях, але мяне адаслалі ў Орлю, бо выпадак здарыўся на тэрыторыі Арлянскай гміны. Паехаў я тады ў Орлю, адкуль выклікалі крымінальную паліцыю з Бельска. Тыя знайшлі ў целе жарабяці кулю ад штуцэра і на гэтую акалічнасць саставілі пратакол. Якраз змяркалася і я ў той момант не заўважыў, што ў адной кабылы шрацінамі былі паранены грудзі і нага. Давай я зноў ехаць на пастарунак у Орлю. Прыехалі паліцыянт з ветэрынарам, саставілі адпаведны пратакол і сказалі, што праз месяц справа высветліцца. Да гэтай пары атрымаў я толькі пісульку аб узбуджэнні крымінальнай справы.

Чаму мне, селяніну, трэба несці матэрыяльны ўрон з-за неакуратнасці паляўнічых. Гэта не мая віна, што яны маіх коней палічылі аленямі ці ласямі. Гэта ж звычайнае браканьерства, пакольні паляўнічым можна страляць гадзіну пасля ўсходу і да гадзіны да захаду сонца. Ім таксама нельга страляць ноччу да нераспазнага аб'екта. Хто тады страляў? Паляўнічае ружжо і адбіткі куляў рэгіструюцца ў паліцэйскіх картатэках і спадзяюся, што злачынца ўсё-такі будзе выяўлены. Ён памыліўся, а я пацярпеў страту.

**Міхал Мінцэвіч**

# Сацыялістычная медыцына і капіталізм

Пратэсты медыкаў супраць нізкай платы сталі ўжо пастаянным фактарам грамадска-палітычнага жыцця краіны пасля 1989 года. Падобная сітуацыя выступае і ў галіне асветы, настаўнікі, аднак, рэдка бунтуюцца. Няма праблемы, каб памяняць іх на іншых. Гісторыі ці літаратуры, як паказала практыка першых рэвалюцыйных пераўтварэнняў, можа вучыць кожны, хто прынамсі ўмее чытаць і пісаць. Горш сярод шэрага натоўпу знайсці хірурга ці кардыёлага.

Кожны чалавек, які вымушаны карыстацца паслугамі супрацоўнікаў аховы здароўя, ведае, што лекары выконваюць сваю працу толькі ва ўмовах капіталістычнай гаспадаркі. Калі хворы не мае сродкаў выказаць медыкам сваю ўдзячнасць, не павінен ім дакучаць сваімі праблемамі. Гэтак званая бясплатная дзяржаўная медыцына ў сапраўднасці ўжо не існуе. Фармальна працуюць там сотні тысяч людзей, якія атрымліваюць нейкую плату. Сродкі на пастаянную рэанімацыю гэтай гіганцкай структуры ідуць ад грамадзян, якія плацяць падаткі. Сёння ад кожнага заробленага злотага трэба аддаць у дзяржаўны бюджэт 70 грошаў. За ўсё гэта павінны быць аплачаны асвета і ахова здароўя. Аднак, калі чалавек захварэе, нягледзячы на тое, што ўжо заплаціў за медыцынскія паслугі ў дзяржаўнай амбулаторыі, вымушаны шукаць паратунку ў прыватных лекарскіх кабінетах.

У гарадской амбулаторыі ў Беластоку, што пры вуліцы Бэма, візіту ў кардыёлага трэба чакаць 2-3 тыдні. Раней адпаведную пуцёўку трэба было адчакаць у вялікіх чэргах у раённай амбулаторыі. Калі я прыйшоў 15 мінут да вызначага тэрміну візіту, на калідоры каля лекарскага кабінета не было ніводнай асобы. „Пэўна нехта ёсць усярэдзіне", — падумалася мне. Адчакаў я тыя 15 мінут... і пачаўся візіт, якога трэба было чакаць 16 дзён. Лекар сядзеў адзін і чытаў газету. Пэўна артыкул быў вельмі цікавы, бо хутка мяне пазбыўся, адаслаўшы да іншага спецыяліста. Побач, у гэтым самым часе працавалі яшчэ два кардыёлагі. Каля іх кабінетаў таксама было зусім пуста. Хворыя тым часам тыднямі чакалі парухвілінная размовы, з якой і так нічога не вынікала.

Гэтая фікцыя, якая называецца грамадскай службай аховы здароўя, існуе за вялікія сродкі з кішэні падаткаплацельшчыкаў. Яна даўно перастала выконваць тую функцыю, дзеля якой была створана. Той, хто хоча лячыцца, і так вымушаны другі раз плаціць. Пра нейкія рэформы ў гэтай галіне гаворыцца ўжо некалькі гадоў. Толькі нічога ў гэтай справе не робіцца, таму што, праўдападобна, прадаўжэннем такога стану найбольш зацікаўлены самі лекары. Можам тады далей слухаць усялякіх балбатлівых чэрапаў пра неабходнасць рэформы службы аховы здароўя. Аднак рэфармаваць не пакуль што ніхто не збіраецца. Хварэць у такой сітуацыі могуць толькі людзі заможныя, а бяднейшым астаецца толькі маліцца за сваё здароўе або за сваю несмяротную душу.

**Васіль Кургановіч**

# У гэтай справе нельга маўчаць



*Прафесар Аляксандр Баршчэўскі.*

**Шаноўныя дэлегаты XIII З'езду Беларускага Грамадска-Культурнага Таварыства!**

Пачынаючы ад II З'езду і канчаючы XII З'ездам быў я ўдзельнікам усіх адзінаццаці З'ездаў нашай Арганізацыі. Не прыехаў я на XIII З'езд і зрабіў гэта цалкам свядома. Узнікае натуральнае пытанне — чаму? Адказваю. Таму, што не адпавядае мне палітычны напрамак сённяшняга Кіраўніцтва Таварыства, не адпавядае яго фінансавая палітыка і не адпавядае стыль кіравання Арганізацыяй.

Адносна першага пытання, выясняю, што, па-мойму, Кіраўніцтва Беларускага Таварыства не павінна звязвацца ў Рэспубліцы Беларусь з тымі сіламі, якія, пагарджаючы ідэяй незалежнасці Беларускай Дзяржавы, давялі да ліквідацыі беларускага нацыянальнага сцяга і герба, да ліквідацыі беларускай мовы як адзінай мовы дзяржаўнай, давялі да драматычнага абмежавання абсягу навучання роднай мовы ў школах, выклікалі лавінную русіфікацыю Беларусі, тэмпы якой не ўступаюць тэмпам сталінскім.

Тэзіс Кіраўніцтва Таварыства, што яно не будзе ўмешвацца ва ўнутраныя беларускія справы, аб'ектыўна з'яўляецца формай падтрымкі для такіх злачынных дзеянняў, як адбіранне ад настаўнікаў Дому Настаўніка, ад пісьменнікаў Дому Літаратара, ад Беларускага Ліцэя школьнага будынку, ліквідацыі газеты „Свабода" і гэтак далей. Па-мойму, Беларускае Грамадска-Культурнае Таварыства, так як гэта робіць увесь дэмакратычны свет, павінна акцэнтаваць свае непрыхільныя адносіны да таго ўсяго, што губіць беларусаў як нацыю.

Што датычыцца фінансавай палітыкі, дык не магу ні ў якім выпадку падтрымліваць затойвання датацыяў для Таварыства з боку дзяржавы і спосабаў расходвання гэтых датацыяў у дзейнасці нашай Арганізацыі. Да апошніх месяцаў не ўдалося мне высветліць, якія сумы грошай атрымлівалі за сваю дзейнасць у Таварыстве яго Старшыня і Сакратар.

Аб выразным засакрэчванні фінансавых пытанняў у Таварыстве можа сведчыць, між іншым, такі выпадак. Чатыры гады таму я выйшаў з ініцыятывай міжнароднай навуковай канферэнцыі „Шлях да ўзаемнасці", прысвечанай польска-беларускім літаратурным, моўным, фальклорным і культурным суадносінам. Міністэрства Культуры на працягу трох гадоў давала датацыю на гэтую канферэнцыю. Я — яе ініцыятар і арганізатар — ні разу не быў паінфармаваны аб размерах датацыі, аб расходах пры паасобных канферэнцыях і аб сумах, якія засталіся невыдаткаваныя. Калі ў ліпені 1997 года сказаў я Старшыні і Сакратару Галоўнага Праўлення Таварыства, што грошы, якія засталіся ад канферэнцыяў, павінны быць прызначаныя на выданне пасляканферэнцыйных матэрыялаў, Сакратар Праўлення адказала: „Што там выдаваць? Дакладчыкі пакінулі два даклады па дзесяць старонак". Мая інфармацыя аб тым, што маю на руках чатырыста старонак пасляканферэнцыйных матэрыялаў, якія трэба выдаць, да сёння засталася без адказу. Тым часам, у Выдавецтве ENERGEA ляжыць наш том „ACTA POLONO-ALBARUTHENICA", які не можа выйсці з прычыны недахопу сродкаў.

Я ўважаю, што ўсякае засакрэчванне фінансавага стану Арганізацыі вядзе да рознага тыпу вывіхаў і анамаліяў, якіх я асабіста не магу фірмаваць і падтрымліваць.

Што датычыцца стылю кіравання Таварыствам, дык засталася ў ім толькі дэкарацыйная фасаднасць. Пасяджэнні Прэзідыума праводзіліся вельмі-вельмі рэдка і запаўнялі іх галоўным чынам доўгія маналогі Старшыні. Я ўжо не памятаю, калі апошні раз прысутнічаў на пасяджэнні Прэзідыума бухгалтар, які ў мінулым быў пастаянным удзельнікам сходаў і заўсёды інфармаваў аб даходах і расходах Таварыства.

Кіраўніцтва Арганізацыі поўнасцю страціла кантакт з Актывам Аддзелаў Таварыства, не гаворачы ўжо аб Гуртках. Для прыкладу, Старшыня Аддзела ў Варшаве Д-р Мікалай Алексяюк заявіў, што на працягу некалькіх апошніх гадоў Старшыня Галоўнага Праўлення БГКТ, хаця і неаднойчы бываў у Варшаве, ніколі не наведаў Варшаўскага Аддзела. Прывяду яшчэ адзін прыклад. У 1996 годзе, калі Таварыства святкавала сваё 40-годдзе, ні адзін з былых Старшыняў і Сакратароў, апрача мяне, не быў дапушчаны да голасу і запрошаны ў Прэзідыум. А ў часе Фестывалю Песні, які адбываўся менавіта ў саракавую гадавіну Таварыства, Старшыня Галоўнага Праўлення амаль што з каленяў вітаў высокапастаўленых урадавых гасцей, але нават адным словам не прывітаў ветэранаў беларускага руху ў Польшчы і ні адным словам не сказаў сабраным аб вялікім юбілеі Таварыства.

Шаноўныя Дэлегаты, усё гэта давяло мяне да цвёрдага рашэння не ехаць на З'езд і не прымаць у ім удзелу. А гэта таму, каб ніхто не сказаў, што прагну сарваць З'езд або давесці да расколу ў БГКТ.

З гэтых прычынаў у пісьмовай форме заяўляю, што адракаюся ад пасады Ганаровага Старшыні БГКТ, рэзігную з членства ў Прэзідыуме БГКТ і з членства ў Галоўным Праўленні. Застаюся шэраговым членам Беларускага Грамадска-Культурнага Таварыства, хіба што Кіраўніцтва мяне з гэтай Арганізацыі выключыць.

Нікога, Шаноўныя Дэлегаты, за сабой не клічу, не заахвочваю Вас пакідаць З'езд або не ўваходзіць у яго ўлады. Няхай кожны з Вас кіруецца ўласным розумам і сэрцам.

Прыцiскаю да грудзей усіх тых Дзеячаў Таварыства, з якімі на працягу дзесяткаў гадоў дзяліў я долю і нядолю ў нашай Арганізацыі. Бывайце, Сябры! Я ніколі не стану Вашым ворагам. Веру, што раней ці пазней Таварыства вернецца на нацыянальны грунт і будзе ўдзельнічаць у будове аўтарытэту Незалежнай Беларускай Дзяржавы — сястры Польшчы і іншых вольных дзяржаў і народаў у Еўропе і ў цэлым свеце.

**Ваш Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі)**

# XIII З'езд дэлегатаў БГКТ

[1 ☞ працяг]

Уладзімір Юзвюк, выступаючы са справаздачай Галоўнай рэвізійнай камісіі, сказаў, што Таварыству патрэбна канкрэтная дзейнасць, а не павучанні цэлых народаў, як яны маюць уладкоўваць сваё жыццё. Беларускі саюз і Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ў чарговы раз прайгралі выбары і мы імі займацца не будзем, — сказаў У. Юзвюк. Ён адзначыў, што ўрэшце бацькаўшчына дагледзела старанні БГКТ у галіне культуры. „Беларускі каляндар" — адзіны інфарматар пра жыццё беларусаў у Польшчы — друкуецца ў Мінску, а змест нарыхтоўваецца тут. Беларускамоўныя медыі, дадаў У. Юзвюк, паспяваюць за агульнадзяржаўнымі плынямі, але разыходзяцца з аб'ектыўнасцю і прафесійнасцю ў дачыненні да Таварыства.

**Пажаданні, падарункі**

Сярод запрошаных гасцей слова ўзялі амаль усе. Прывітанні ды пажаданні плённай працы для з'езду выказалі В. Цімашэвіч ды Іван Пашкевіч — намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта РБ. Калі б памкнуцца на вызначэнне, каму з іх мацней прагучалі завяршальныя апладысменты, дык, хіба, Івану Пашкевічу, які перадаў прывітанні ад бацькаўшчыны і шмат-шмат падарункаў. А гэта: падарунак ад кіраўніка дзяржавы Яну Сычэўскаму (тэлевізар), асабісты падарунак кіраўніка дзяржавы Валянціне Ласкевіч (з нагоды дня нараджэння) ды гадзіннікі з выгравіраванымі пажаданнямі ад кіраўніка дзяржавы Мікалаю Нікалаюку, Ніне Цыванюк і Тамары Русачык (за дасягненні ў развіцці беларускай мовы). Падзяку і пажаданні кіраўніку дзяржавы ад імя ўсіх узнагароджаных выказала Тамара Русачык.

Іван Пашкевіч адзначыў, што ўсе прапановы ён запісваў і даў слова, што дапамога ў пабудове помніка ахвярам вайны, як і ў іншых справах будзе аказвацца. Выказаў ён таксама думку, што і ў час Варшаўскага дагавору, і цяпер, калі Польшча ўступае ў НАТО, самая моцная мяжа існуе паміж Польшчай і Беларуссю, а ў выніку — нашы краіны апынуцца па абодвух баках барыкады. Ён засцярогся, што ніяк гэтага не суадносіць да палітыкі, толькі нізка пахіляе галаву ў знак пашаны перад дасягненнямі БГКТ.

Іншыя госці або выступалі, або зачытвалі віншавальныя лісты. І так, зачытанымі былі лісты ад міністэрстваў асветы і культуры РБ, міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, а Валянціна Ласкевіч была ўзнагароджана граматай Савета Міністраў РБ.

Аляксандр Іванюк з Гайнаўкі перадаў у прэзідыум З'езда ліст ад Аляксандра Баршчэўскага (ганаровага старшыні БГКТ)*(ліст друкуем побач — рэд.)*, які на З'езд не прыехаў.

**Дыскусія**

У дыскусіі моцна прагучаў голас Уладзіміра Сычэўскага, які выказаў непакой беларусаў пасля апошніх выбараў, а таксама і погляд, што беларусам НАТО і Унія не адпавядаюць. Хведар Галёнка заўважыў, што ўлады на словах дапамагаюць Таварыству, а на практыцы робяць усё, каб абмежаваць яго дзейнасць. Янка Зенюк падкрэсліваў значэнне працы з настаўнікамі. Анна Іванюк звярнула ўвагу на клопат з памяшканнем у Гданьску. Мікалай Бушко выступіў з пакетам пастулатаў гайнаўскага аддзела (ён друкаваўся ў „Ніве" раней). М. Бушко звярнуў увагу на неабходнасць змены ў стылі кіравання БГКТ. Яўген Сачко спрабаваў высветліць справу накіроўвання вупускнікоў ліцэяў у вучэльні Беларусі. Паводле яго, у першую чаргу павінна ісці туды моладзь з беларускіх ліцэяў, што падносіла б ранг беларускай мовы. Сяргей Лукашук закрануў справу фінансавання калектываў — Таварыства атрымлівае грошы на канкрэтныя калектывы, але сродкі тыя да калектываў не даходзяць.

Сяргею Лукашуку адказала Валянціна Ласкевіч. У фінансах Таварыства няма сакрэтнасці. Калі нейкі калектыў не можа, ці не хоча паехаць на фэст, то Таварыства не можа яму адвесці сродкі, бо Таварыству трэба завезці і паказаць на фэсце нейкі іншы калектыў.

Як пасылаць выпускнікоў ліцэяў у вучэльні Беларусі растлумачыў дэлегатам Іван Пашкевіч — намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта РБ. Рэспубліка Беларусь не робіць у гэтай справе ніякіх перашкод. А калі ідзе пра кандыдатаў, дык што вінаватае дзіця з-пад Сямятыч, што няма там беларускай школы — рытарычна запытаў намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта РБ.

**Фінал**

Выступленні гайнаўскіх дэлегатаў перабіла Таіса Кацэйка з Орлі: давайце выбіраць улады, пакуль Гайнаўка аб'явіць схізму. Давайце. 75% кандыдатаў у Галоўнае праўленне Таварыства з 35 асоб назначыла выбарчая камісія, а 25% апошніх запрапанавала зала. З'езд у яўным галасаванні пры 5 устрымаўшыхся і 1 супраць выбраў ГП БГКТ трынаццатага склікання. На першым сваім пасяджэнні Галоўнае праўленне вылучыла Прэзідыум у складзе: Ян Сычэўскі (старшыня), Ірыней Лаўрашук (намеснік старшыні), Мікалай Нікалаюк (намеснік старшыні), Валянціна Ласкевіч (сакратар), Хведар Галёнка, Зінаіда Навіцкая, Мікалай Пракапюк, Пятро Прышчэпка, Тамара Русачык, Яўген Сачко, Яўген Валкавыцкі.

Ян Сычэўскі ў слове новаабранага старшыні адзначыў, што здзіўляюць яго дэлегаты, якія на З'езд прыехалі з канцэртам пажаданняў, не ўлічваючы рэальных магчымасцяў Таварыства. Асабліва моцна забалеў старшыню недавер дэлегатаў у фінансавых справах.

Магчыма, З'езд і завяршыўся б на такой ноце, калі б не запытанне Анны Іванюк з Гданьска: а што з лістом А. Баршчэўскага, гэта ж ганаровы старшыня і аўтарытэт. Дэлегаты падзяліліся: чытаць — не чытаць. Ліст далучаецца да пратакола і не чытаецца — перабіў Ян Сычэўскі. Усчалася калатнеча. Суцішыла яе Тамара Русачык, якая стала чытаць ліст...

На З'езд не прыехаў я свядома, — пісаў А. Баршчэўскі, — бо не адпавядае мне палітыка цяперашняга кіраўніцтва БГКТ, якое звязваецца з тымі сіламі ў Рэспубліцы Беларусь, якія давялі да знішчэння мовы, асветы, зачыняюць газеты...

У зале загудзела. Тамара Русачык перапыніла чытанне і закрычала па-над гоманам дэлегатаў: а ведаеце, што Баршчэўскі зняў мяне з сакратара Алімпіяды па беларускай мове? Ён таксама злоўжываў грашыма, адведзенымі на алімпіяду... Загудзела ізноў, дэлегаты ўсталі з месц. Не чытаць далей. Не чытаць.

Пасля прымаліся яшчэ пастановы З'езда. Сярод іх, між іншым, у справах назначэння прадметнага візітатара па беларускай мове, рэгуляцыі рэкрутацыі кандыдатаў у вучэльні Беларусі і развіцці супрацоўніцтва з асветнымі ўстановамі Беларусі.

**Аляксандр Максімюк**

# Не павучайце суседа

**Размова з Мікалаем Крэчкам — генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку.**

*— Ці Вы ўжо ў нас абжыліся?*

— Так. Працую я тут ад 21 кастрычніка, хаця экзекватуру ад вашага Міністэрства замежных спраў атрымаў роўна месяц пазней. А я ж прыехаў яшчэ раней — 7 кастрычніка. Напачатку мы тут добра папрацавалі са спадаром Слямнёвым. Ём мяне пазнаёміў з абставінамі, з абавязкамі. Я хацеў бы гэта падкрэсліць таму, што ваша прэса рознае пісала, маўляў, адклікаюць прафесара, а на яго месца прысылаюць паліцэйскага...

*— Гэта няпраўда?*

— У Міністэрстве ўнутраных спраў займаўся я справамі грамадзянства, візамі, значыць, тым самым, чым займаецца консульства. Па адукацыі я юрыст і філолаг, ведаю польскую і англійскую мовы, дык, лічу, маю адпаведную падрыхтоўку, каб справіцца з консульскімі абавязкамі.

*— Ці пераход на дыпламатычную службу лічыце павышэннем ці ссылкай з Міністэрства ўнутраных спраў?*

— Ні адным, ні другім. Я ўсё жыццё працаваў на дзяржаўнай службе і назначэнне на консула, гэта чарговы яе этап. Скажу толькі, што я хацеў сюды прыехаць, хаця і разумею, што чакае мяне тут цяжкая праца.

*— Якога тыпу цяжкасцей чакаеце?*

— Вось бачыце, у мяне на стале даведка з камісарыята. Кожны дзень трапляе да нас дзесяць-дванаццаць такіх даведак, а то кагосьці пабілі, а то абакралі. Ці гэта нашыя зрабілі, ці нашым, я ўсе справы мушу разглядаць. Пад апекай консульства ў Беластоку восем ваяводстваў, у тым памежныя ад Сувалкаў па Холм. Цяпер Польшчу ў год наведвае шэсць-сем мільёнаў чалавек з усіх краін былога СССР. Большасць пераходных пунктаў мяжы знаходзіцца на нашай тэрыторыі, а разам з гэтым маем і дастаткова праблем.

*— Што зрабіць, каб умовы перасячэння беларуска-польскай мяжы нарэшце сталі цывілізаванымі?*

— Па абодвух баках мяжы ёсць установы і службы, якія гэтым займаюцца: ваяводскія і абласныя ўлады, пагранічнікі, мытнікі. Патрэбнае між імі супрацоўніцтва. Я буду тут у Польшчы сустракацца з уладамі ўсіх памежных ваяводстваў і абмяркоўваць пытанні мяжы. Ужо цяпер рыхтуемся да святаў, каб хаця ў гэты перыяд аблегчыць як варункі пераезду, так і працу службаў кантролю.

*— Ці сустракаліся Вы ўжо з беластоцкімі ваяводскімі і гарадскімі ўладамі?*

— Афіцыйных сустрэч яшчэ не было, хаця я бачыўся з імі пры нагодзе розных мерапрыемстваў.

***— Вы напэўна ведаеце, што пад консульствам у мінулым было некалькі дэманстрацый. Найбольшая пасля таго, як беларуская міліцыя арыштавала, а затым выкінула за межы краіны Мар'яна Кшаклеўскага. Ці не баіцеся, што сёння, калі Польшчаю кіруе ўзначальваная ім „Салідарнасць", гэты факт не будзе дапамагаць вам — былому функцыянеру МУС — у працы тут?***

— Сёння Польшча робіць вялікія крокі ў бок дэмакратыі, свабоднага рынку, ідзе ў Еўрапейскі Саюз. Няважна, якая партыя пры ўладзе, бо ў кожнай — разумныя лідэры. Я разумею, што гэтыя людзі будуць паводзіць сябе цывілізавана, таму не спадзяюся ніякага рэваншу за тое, што адбылося.

***— Усе беларускія арганізацыі ў Польшчы, апрача аднаго Беларускага грамадска-культурнага таварыства, адмоўна ацэньваюць дзеянні ўлад Беларусі.***

— Выбачайце, але чаму так грамадзян Польшчы хвалююць справы Беларусі. Як я зарыентаваўся, тут сваіх праблем хапае. Калі ласка, пашырайце беларускую культуру, развівайце мастацкую самадзейнасць, дбайце пра тое, каб і ў будучыні гучала тут мілагучная беларуская мова. Навошта ісці з парадамі да суседа? Так не робяць разумныя людзі.

***— Вы заахвочваеце нас дбаць пра тое, што не цэніцца сёння ў Рэспубліцы Беларусь.***

— Чаму не цэніцца? Можа інакш гэта выглядае на ўзроўні дзяржавы, але ж ёсць творчая інтэлігенцыя, ёсць разумныя людзі і, я веру, усё паступова наладзіцца. Людзі, у залежнасці ад сітуацыі, рознага хочуць. Калі голад, ідзе натоўп і патрабуе хлеба. Калі жывецца лепш, людзі дамагаюцца дэмакратыі, відовішчаў...

***— Хлебам і відовішчамі забяспечваюць дыктатары. У дэмакратычнай дзяржаве людзі маюць чым займацца. А што тычыцца Беларусі, дык там саджаюць у турмы і паліцыя збівае за воклічы „Жыве Беларусь!" і за бел-чырвона-белыя значкі.***

— Ведаеце, я чалавек канкрэтны, гавару толькі пра тое, што бачыў асабіста, або пра што маю афіцыйныя звесткі. Магу толькі аднесціся да слоў пра жорсткасць беларускай міліцыі. Нядаўна я глядзеў па польскім тэлебачанні як паліцыя выцягвала з цягніка і біла моладзь да матча ў Гдыні. А ў 1992 годзе бачыў я паводзіны французскай паліцыі ў час студэнцкіх хваляванняў. У Беларусі я за такое даўно сядзеў бы.

***— Тым не менш, міжнародныя ўстановы і арганізацыі не лічаць Францыю ці Польшчу недэмакратычнымі дзяржавамі, а Беларусь — так.***

— Консульства, гэта ўстанова, якая мае вырашаць візавыя, пашпартныя пытанні. Мы тут, перш за ўсё, на тое, каб дапамагаць нашым грамадзянам у кожным асобным выпадку, менавіта гэта і з'яўляецца нашай палітыкай. А што тычыцца Вашага пытання, дык на ўсё патрабуецца час, у тым ліку і на працэсы дэмакратызацыі ў маёй краіне.

**Гутарыў Мікола Ваўранюк**

*Фота Ады Чачугі*



*Мікалай Крэчка, 51 гадоў, закончыў філалагічны і юрыдычны факультэты Беларускага дзяржаўнага універсітэта, магістр права, працаваў у Міністэрстве замежных спраў Беларусі (пытанні візавага рэжыму, пашпартызацыя, грамадзянства), саветнік Міністэрства замежных спраў Беларусі (консульскі дэпартамент). Хобі — літаратура, тэатр, спорт.*

# Мова дзяцей і моладзі ў беларускіх сем'ях

*(працяг; пачатак у 39 н-ры)*

— У Скупаве маладыя ўвогуле не размаўляюць між сабою па-беларуску, — гаворыць Галіна. — У нашых баках, каля Нараўкі, часта здараецца нават, што бабулі гавораць да ўнукаў па-польску.

Нараўчанская гміна, гэта не толькі цудоўныя краявіды берагоў ракі Нараўкі, але і ўражлівыя людзі з прыгожай беларускай дыялектнай мовай, вельмі набліжанай да літаратурнай. Ведаючы гутарковую мову Масева ці Альхоўкі можна хутка навучыцца гаварыць па-літаратурнаму. Друкаванае беларускае слова ўспрымалася тут ахвотна, а культурная дзейнасць мела сваіх прыхільнікаў. Аднак, назіранні за сямейнай мовай маладога пакалення даюць даволі песімістычны вобраз.

— У вольны ад заняткаў час вучні гавораць па-польску, — паведамляе дырэктар Падставовай школы ў Нараўцы Яўген Валкавыцкі. — Толькі ад вучняў, якія даязджаюць з суседніх вёсак можна пачуць дыялектную мову. Калі я прыйшоў працаваць у 1975 годзе, дык у школе яшчэ гучала беларуская гутарковая мова, а пачала знікаць ужо ў васьмідзесятых гадах.

Вырашыў я, што размову пачну ад дырэктара школы, які добра ведае, якая мова гучыць у школе, на вуліцы і ў дамах.

— Маладыя, часцей за ўсё, пачынаюць гаварыць да нас на дыялекце, калі становяцца дарослымі, — заяўляе спадар Валкавыцкі. — На вуліцы рэдка можна сустрэць маладых, якія гавораць інакш, чым па-польску.

Сустрэча з Галінай Сакоўскай, абітурыенткай Гайнаўскага беларускага ліцэя, першакурсніцай аддзялення архітэктуры Універсітэта ў Беластоку, якая пражывае ў Скупаве, дае магчымасць прадоўжыць дыскусію наконт мовы маладога пакалення ў сваіх сем'ях і сваім асяроддзі.

— Спачатку я добра гаварыла пасвойму, але яшчэ перад пачатковай школай бацькі пачалі вучыць мяне гаварыць па-польску, — кажа Галіна. — Аднак, калі я пачала сустракацца з сяброўкамі, пачала гаварыць з імі толькі па-польску. Яны інакш да мяне не звярталіся. У школе таксама рэдка хто гаварыў па-беларуску. У нашым класе, памятаю, па-беларуску гаварылі толькі хлопцы з Альхоўкі і Міклашэва.

Калі я прашу, каб мая субяседніца пачала гаварыць на дыялекце — адмаўляецца.

— Цяпер, дык я і дома рэдка гавару на гутарковай мове. Магу папольску або паспрабую на беларускай літаратурнай мове, — сцвярджае Галіна. — Мае старэйшыя брат і сястра гавораць з бацькамі яшчэ па-свойму.

Пачынаю цікавіцца мовай малых дзяцей і школьнікаў са Скупава, якія вучацца ў Нараўцы.

— Малыя дзеці і школьнікі ўвогуле не гавораць па-беларуску, а думаю, што і не ўмеюць гаварыць, — дае адказ мая суразмоўца. — Даўней бабуля мая гаварыла са мною на гаворцы, а цяпер мая мама размаўляе са сваімі ўнукамі па-польску.

Цяжка Галіне сказаць, якія фактары паўплывалі на бацькоў, што перасталі гаварыць з дзецьмі на дыялекце.

— Можа хацелі, каб дзеці лепш навучыліся гаварыць па-польску, калі прыйдзецца ісці ў школу, — задумваецца студэнтка. — Але, хіба таму, што такая мода пайшла ў нашай ваколіцы.

Паўсюднасць польскай мовы сярод нараўчанскай моладзі пацвярджае таксама і Анна Міцык, мама выпускніцы Гайнаўскага ліцэя — Басі.

— Калі я яшчэ вучылася ў падставовай школе, а жылі мы ў самай Нараўцы, дык гаварылі па-беларуску, — расказвае спадарыня Анна Міцык. — У час вясковых забаваў гутаркі вяліся толькі на дыялекце. Але, калі я яшчэ нядаўна працавала ў Нараўцы, не чула, каб моладзь карысталася беларускай мовай. Думаю, што прычыны могуць быць розныя, але гэта залежыць перад усім ад бацькоў. Ну, вядома, у Нараўцы многа палякаў, якія прыехалі сюды працаваць на шкляны завод, яшчэ перад вайною. Гэта таксама мае ўплыў на паўсюднасць польскай мовы не толькі сярод моладзі, але і старэйшых.

Выказванні маіх суразмоўцаў з'яўляюцца доказам на адміранне прыгожай нараўчанскай дыялектнай мовы. Пакуль што адсутнічае яна ў жыцці маладога пакалення, але хутка гэтыя маладыя людзі стануць дарослымі і тыя, якія застануцца дома, будуць мець непасрэдны ўплыў на фарміраванне свядомасці і мовы ў сваіх вёсках і мясцовасцях. Паўсюднасць польскай мовы ў размовах дзяцей і моладзі Беластока, Гайнаўкі ці Бельска вядомая ўжо здаўна.

Як стрымаць працэс адмірання беларускай мовы там, дзе яна яшчэ захоўваецца? Можа нейкія высновы зробяць самі маладыя людзі?

*(заканчэнне будзе)*

**Аляксей Мароз**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Сяргей Грахоўскі

## Ключ

Не ашукай сябе, дзіця,
не вер у шыканне і змову.
Жыццё не вартае жыцця,
калі сваю забудзеш мову,

калі забудзеш, хто ты ёсць,
паверыш ненадзейным хлусам,
ты станеш дома толькі госць,
што калісь зваўся беларусам.

Сумленнем шчыра ахрысці
сваю душу на боскім свяце,
бо шчасце страціш у жыцці,
калі сваю забудзеш маці.

А вырасцеш, — збярэш гасцей
з Варшавы, Прагі ці Тырновы
і будзеш адчуваць часцей,
што маеш ключ да кожнай мовы.

# Запусты ў Нарве

29 лістапада, вечар. На небе мігцяць яркія зоркі. Дрэвы асыпаныя снегам. У дарозе псуецца наш аўтобус. Мароз шчыпае за нос. На шчасце едзе рэйсавы аўтобус ПКСа. У Нарву дабіраемся пасля дамоўленай гадзіны. А там з нецярплівасцю нас выглядаюць. Усё ж падгатоўлена!

У святліцы занятыя ўсе лаўкі. Ды на калідоры яшчэ процьма народу. Сярод публікі не толькі жыхары Нарвы, але і Ласінкі, Трасцянкі, Гарадка.

— Сардэчна вітаем! — запрашаюць нас на сцэну гаспадары.

Пачынаецца „Вяселле" Волечкі і Міхася. Ужо чарговы раз. Дзеці з беларускага прадшколля ў Беластоку любяць гэтую п'есу. Вясёлая яна і гучная. І танцы там, і спевы, і многа жартаў. Ну і бацькі разам на сцэне. Пераважна мамы, пераапранутыя ў народныя ўборы. Ёсць і маршалак перавязаны ручніком. І фальшывыя маладыя. І музыкант слаўны, ніхто іншы як толькі пані Аня Бабік, настаўніца рытмікі. Ды публіка выдатная, не шкадуе гучных воплескаў.



Ніна Абрамюк і юны дэкламатар з Нарвы.

У першым радзе сядзяць дашкольнікі з Нарвы. Яны самыя вялікія паклоннікі выступаючых. Гаспадары прадаўжаюць вечарыну. Ніна Абрамюк, метадыст па навучанні беларускай мовы і вучні: Сільвія, Эльвіра, Аня, Лукаш і Ася — клічуць на сцэну дэкламатараў-добраахвотнікаў. Сярод дзетак многа дашкольнікаў з Нарвы. Прыгожа і разборліва дэкламуюць яны падабраныя творы. Паздней спяваюць беларускія песенькі. Вялікае зацікаўленне выклікае гульня ў разгадванне загадак.

За правільны адказ чакаюць ласункі і ўзнагароды. Бацькі глядзяць на сваіх малышоў і прамянеюць шчасцем. Вельмі ж радуюць іх маладзенькія энтузіясты роднай мовы.

А пасля выступленняў дзеткі танчылі і гулялі ў вясёлыя гульні. Беластоцкіх госцікаў дагледалі ветлівыя дзеткі з Нарвы. Гульні і танцы спрыялі новым знаёмствам і сяброўствам.

* * *

Ніна Абрамюк арганізавала мерапрыемства з мэтай падтрымкі беларускай мовы ў сваёй школе. У Нарве, як адзінай школе па-за Беластокам, уводзяцца беларускія элементы ў дзіцячы сад і першы клас. Як многа губляюць тыя, што не вучацца сваёй роднай мовы ад пачатку адукацыі, ведаюць усе тыя бацькі, якія паслалі сваіх малечаў у беларускае прадшколле.

А настаўнікаў і бацькоў з Нарвы трэба павіншаваць з добрай ідэяй. Няхай іх дарогай пойдуць і іншыя школы.

**Зорка**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

<u>**Спонсары мерапрыемства:**</u>
**Андрэй Асташэўскі** з Нарвы,
**Аляксандр Астроўка** з Нарвы,
Прадпрыемства **Рольмак** з Макаўкі.

Падарожжа фінансаваў **Пятро Юшчук** з Беластока.

## Беларускае школьніцтва ў II Рэчы Паспалітай

Пасля заканчэння польска-расейскай вайны палова Беларусі апынулася ў межах Польшы. У Віленскім, Навагрудскім, Палескім і Гродзенскім ваяводствах пераважную большасць насельніцтва складалі беларусы. Амаль двухмільённая маса беларусаў у II Рэчы Паспалітай у сапраўднасці была пазбаўлена школьніцтва на роднай мове.

У 1918-1919 гадах грамадскімі сіламі беларусы адкрылі амаль 400 школ. У 1925 годзе засталіся ўсяго 4 беларускія школы. Астатнія былі ператвораны ў польскія. На тэрыторыі Беласточчыны нават дзяржаўныя законы забаранялі беларусам арганізаваць школы з роднай мовай навучання. Інтэлігенцыя наша аднак не апускала рук — стварала іншыя формы нацыянальнай адукацыі. Арганізаваныя былі вясковыя бібліятэкі, курсы па гаспадарцы на беларускай мове, аматарскія тэатральныя і музычныя калектывы. З мэтай каардынацыі прац у галіне навучання роднай мовы і культуры было заснавана Таварыства беларускай школы.

У 1927 годзе, пад уплывам націску з боку беларускага асяроддзя, польскі ўрад дазволіў адкрыць 29 беларускіх школ і 49 польска-беларускіх. Пры канцы дваццатых гадоў існавалі таксама 4 беларускія гімназіі — у Клецку, Радашковічах, Навагрудку і Вільні. У 1932-1934 гадах першыя тры былі закрыты, а віленская была ператворана ў філіял мясцовай польскай гімназіі. Санацыйныя ўлады дайшлі да вываду, што ў хуткім часе трэба ім ператварыць два мільёны беларусаў у палякаў. Згодна з такой палітычнай логікай у 1938 годзе была закрыта апошняя беларуская школа ў даваеннай Польшчы.




„Вяселле" — пастаноўка беларускага прадшколля ў Беластоку.



Нарваўская публіка і беластоцкія госці.

# Наталька


*На вечары ў бібліятэцы.*

Наталька Швед жыве ў Беластоку. Сёлета ёй споўнілася сем гадоў і яна пайшла ў першы клас. Выбрала школу нумар 4, дзе разам з іншымі дзеткамі-беларусамі можа вывучаць сваю родную мову ў класе з беларускай мовай як прадметам.

Гэта сапраўды было рашэнне не толькі яе бацькоў, але і самой Натанькі. Яна заўсёды хацела вывучаць сваю мову. Памятаю, што калі тры гады таму праводзіла я размову з яе татам, вядомым паэтам Віктарам Шведам, Наталька ўсё прасіла мяне: „Цёця! А можа ты будзеш вучыць мяне беларускай мове?! Ну, давай будзем гуляць: ты гаворыш мне нейкія словы на польскай мове, а я перакладаю табе на беларускую...” Тады Натальцы было ўсяго чатыры з паловай года.

Цяпер ужо Наталька вялікая. У школе на ўроках беларускай мовы яна развучыла многа песень і вершаў. І вельмі любіць яна сваю настаўніцу Аліну Ваўранюк, якая вучыць яе, як быць беларускай. Але і яна хваліць Натальку. Вельмі гэта паслухмяная і культурная дзяўчынка, сцвярджае настаўніца. Ведае, калі і што трэба сказаць, а калі — лепш памаўчаць.

У хаце Наталька просіць, каб з ёю бацькі размаўлялі толькі пабеларуску і пачынае ўжо сама чытаць беларускія вершы. Праўда, пакуль што яна выбірае толькі тыя вершы, якія ёй падабаюцца, але ж у жыцці гэта вельмі важна, калі чалавек ведае, чаго ён хоча.

Вельмі любіць таксама Наталька слухаць касету дзіцячага калектыву „Жыравінка” з Бельска. Як толькі мае свабодную хвілінку, дык адразу ўключае магнітафон і слухае, як добра спяваюць беларускія песні дзеці са школы нумар 3 у Бельску.

Наталька таксама хацела б спяваць, нават вучыцца ў музычнай школе ўжо другі год (адзін год была яна ў музычным прадшколлі) па класу фартэпіяна.

І яшчэ Наталька ходзіць у балетную школу, дзе вучыцца танцаваць. Усё хацела б яна ўмець і пакуль што ўсюды паспявае.

Адна бяда: Наталька, хаця вельмі пасталела, усё яшчэ маленькая дзяўчынка. Ва ўсе школы яшчэ водзіць яе тата, які няраз наракае, што за гэты час колькі яшчэ вершаў мог бы напісаць. Мы яго ў рэдакцыі суцяшаем, што ўжо іх напісаў дастаткова многа, а цяпер Наталька найважнейшая.

Але і малая не застаецца перад татам у даўгу. Ходзіць на вечары, прысвечаныя паэзіі таты. Ужо два разы я чула, як Наталька чытала татавы вершы: у зале Ваяводскай бібліятэкі імя Лукаша Гурніцкага — з нагоды выхаду ў свет кніжкі Віктара Шведа „Wiersze wybrane”, а таксама ва ўніверсітэце, на вечары, наладжаным студэнтамі, — з вершамі і песнямі яе таты. Пакуль што Наталька чытае вершы ў польскім перакладзе, але хутка ўжо будзе іх дэкламаваць па-беларуску.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Міфы старой Беларусі

**11. Дамавік**

*(заканчэнне: пачатак у двух папярэдніх нумарах „Зоркі”.)*

Вельмі цікавы расказ пра дамавіка пераказалі этнографу Н. Я. Нікіфароўскаму сяляне з Віцебшчыны ў канцы XIX стагоддзя.

У дамавіка толькі адна жонка. Пасля смерці яе ён можа ажаніцца да чатырох разоў, але не са сваячкамі — інакш ён абавязаны пакінуць хатнюю службу і пайсці ў лесавікі ці вадзянікі. Ад гэтай жонкі дамавік мае дзяцей. Дарослыя сыны становяцца дамавікамі новапабудаваных дамоў. Дочкі ідуць замуж. Некаторыя з іх астаюцца ў дзеўках, яны вечна маладыя і прыгожыя. Яны здольныя зводзіць маладых сыноў гаспадара. Прытым яны вымагаюць ад хлопцаў абсалютнай вернасці. У іншым выпадку неміласэрна помсцяць. Дамавікі спраўляюць свае вяселлі разам з вяселлем гаспадарскіх дзяцей, каб асобна не плаціць музыкантам.

Без дамавіка нельга добра жыць. Прадбачлівы гаспадар стараецца яго звабіць у Велікодную ноч (калі сям'я ў царкве) заклікам: *Выбач, дзедка, за трывогу, але толькі прыйдзі ка мне ні зелен, як лісціна, ні сінь, як вална на вадзе, ні панур як воўк; прыйдзі такі як я сам.*

З'явіцца двайнік гаспадара — чалавек такога выгляду і росту як гаспадар. Гаспадар абавязаны нікому не гаварыць пра дамавіка. У іншым выпадку нячысцік спаліць дом, а яго гнеў пяройдзе на наступныя чатыры пакаленні роду. Калі гаспадар трымаецца правіл, дамавік будзе служыць яму. Хопіць толькі ўголас выявіць свае жаданні (толькі без сведкаў), тады нячысцік сам просіць працу. Ён прыбірае хату, прадзе, мые, меле па начах збожжа, адганяе ад спячых мух. Дамавік папярэджвае пра няшчасці — пажар, крадзеж, хваробу, ці то стукам, то пагладжваннем галавы соннага, то з'яўленнем жывёлы. Калі дамавік паяўляецца ў сваім сапраўдным выглядзе — гэта гаспадару прарочыць смерць.

Трэба адзначыць, што нячысцік мае стасункі толькі з гаспадаром і сямейнымі мужчынамі і толькі найбольш прыгожыя сямейныя жанчыны карыстаюцца нязначнай яго ўвагай. На думку народа, дамавікамі стаюцца памерлыя ў хаце члены сям'і.

## Вожык

Вожычак, вожык, куды ты хадзіў?
Можа, ты нават у Гайнаўцы быў?
Можа, з падбіўкай плашчык пашыў
Або кажух сабе цёплы купіў?

— Напрацаваўся я ўвосень да поту.
У кухні рабіў я варэнні, кампоты,
Дваццаць шнуркоў я сабе насушыў
Яблык, ігруш, грыбочкаў і сліў...

А мне кажух той цёплы не трэба,
Бо назбіраў я лістоў во! — да неба!
Для мяне яны коўдры, пярынкі
ў хатцы,
Бо на зіму ўсю я пайду спаткі.

**Міра Лукша**

# Польска-беларуская крыжаванка № 50

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Rytm ▼ / Opowiadanie ► | | | | | ▼ | |
| ► | | | Plaża | Opiekun | | Koń |
| Ryż | | Jeleń | ▼ | Jak ► / Osa | | ▼ |
| Mleko ► | | ▼ | | ▼ | | |
| Grudzień | Leśny bożek ► | | | | | |
| ► | | | | | | |
| ► | | | Ukrop, wrzątek | ▼ | Zima / Cud | Ara |
| Łan | ► | | ▼ | | ▼ | ▼ |
| 📖 | Lwica | Amur ► | | | | |
| Stado ► | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 46:** хутар, рука, логаў, вяз, мак, яма, лоб, суш, вада, хата, сад; схема, мяса, хамут, мурог, каша, туга, рака, волас, раўня, ода, дзюба.

Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі: Эвэліна Баена, Гжэсь Мэтэнька, Міхал Калужынскі, Юліта Гайко з бельскай „тройкі”, Каміля Карповіч з Гарадка, Бажэна Ахрымюк з Крыўца, Славамір Калнаўс з Кнарыд і Аня Камар з Кленік. Віншуем!

# Конкурс, конкурс, конкурс!

*Літаратурныя гульні № 9*

Адкажыце на пытанні. Адказы на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Аўтары правільных, прынамсі трох, адказаў могуць выйграць цікавыя беларускія кніжкі. Запрашаем прыняць удзел не толькі дзяцей, але і старэйшых чытачоў. Просім таксама адзначыць узрост, каб падабраць адпаведную літаратуру.

1. Назавіце сапраўднае прозвішча Цёткі.
2. Якога веравызнання быў Янка Купала?
3. У якім старажытным помніку беларускай літаратуры апісана бітва пад Грунвальдам?
4. Хто з'яўляецца аўтарам лібрэта оперы Станіслава Манюшкі „Сялянка”?
5. Дзе пастаўлены помнік Францішку Багушэвічу?

**Адказ на літаратурны конкурс № 5**

1. Вобраз ваўкалака даволі пашыраны ў беларускай літаратуры і выступае ў такіх вядомых творах, як верш **Паўлюка Багрыма „Зайграй, зайграй хлопча малы”** ці ў апавяданнях **„Ваўкалак” Яна Баршчэўскага** і **Максіма Гарэцкага**.
2. Верш „Пагоня” *(Толькі ў сэрцы трывожным пачую)* напісаў **Максім Багдановіч**.
3. Самымі выдатнымі прадстаўнікамі беларускага эстэтызму з'яўляюцца **Максім Багдановіч і Наталля Арсеннева**.
4. Віктар Швед нарадзіўся **25 сакавіка 1925 г.** у вёсцы Мора Чыжоўскай гміны.
5. У Ялце пастаўлены помнік паэту **Максіму Багдановічу**.

Альбом „Старажытнабеларускі манументальны жывапіс” выйграў **Алесь Грыгарук** з Гайнаўкі. Віншуем!



Талон „Зоркі” № 50
14.12.1997

# Уцёкі і вяртанні



**Успаміны Уладзіміра ШЫМЧУКА, 87-гадовага жыхара вёскі Чараўкі Юхнавецкай гміны.**

У бежанства падалася ўся наша вёска, бо выганялі, нават тых, хто не хацеў. Тры кіламетры за вёскай была альшына, і калі б былі ў той альшыне схаваліся і перачакалі, то і не паехалі б; Завыкі так зрабілі і назад вярнуліся. Быдла гналі, але не загналі далёка — пакінулі жывёлу, а яе салдаты сабе на харч забіралі. Пазней забралі ад нас коней і вазы, пагрузіліся мы на поезд і завезлі нас на станцыю Баланда каля Саратава. Там падставілі нам вазы і паразвозілі па гаспадарах. Наш гаспадар быў бедны, аднаго каня толькі меў ды і той глухі быў. Распаліць у печцы агонь, нагрэе на *патыку* сала і дае табе. Перазімавалі мы там, а навесну ў другую вёску — Малаекацярынаўку, Аткарскага ўезда — пераехалі. У новага гаспадара была хата падвойная і мы жылі асобна. Спярша бацька працаваў пільшчыкам, а пасля забралі яго бліжэй фронту дарогі ладзіць; там ён быў да канца вайны. Калі вярнуўся, рушылі мы ў дарогу на радзіму. Яшчэ ў Аткарскім прастаялі мы ў тупіку ад Вялікадня цэлае лета. Хадзілі тады на працу на казённы *пітомнік*; там плацілі і есці давалі. Толькі пад восень рушылі мы ў далейшую дарогу.

Вярнуліся мы на голы камень; былі тут ужо людзі, што нешта мелі, то і нам давалі крыху есці. На канцы вёскі пустая хата стаяла з разваленымі печамі, то мы туды пасяліліся, печы паставілі і жылі там два гады, пакуль сваёй хаты не пабудавалі. Бацька плыты ганяў і за заробленыя грошы купіў у Белавежы дрэва. Распілавалі тое дрэва і часовую хату паставілі. Каня купілі за грошы, што *на шляхце* зарабілі сена косячы. Хто меў быдла, той даваў карову трымаць; двое цялят, што яна за той час прыводзіла, пакідалася сабе, а карову аддавалася разам з трэцім цялём.

У 1939 годзе змабілізавалі мяне ў войска і пасля тае вайны вяртаўся я дадому і каля Браньска папаў я ў палон. Немец, які мяне браў, сказаў, што калі б дзень раней мяне спаткаў, то дадому адвёз бы. Бо тыя польскія салдаты, што з вайны вярталіся, не ішлі дадому, а ў лес — па немцах страляць, і прыйшоў загад усіх польскіх салдатаў у няволю браць. Напачатку папаў я да аднаго гаспадара. Абрубваў у яго лесе голле. Рукі млеюць, а ён стаіць і — рубай! То я махнуў так, што сякера яму між ногі ўпала, але перакладчык мяне выратаваў. Пазней у другім маёнтку рабіў — там спаткаў аднаго рускага, што пасля 1914 года астаўся. Ён кажа: надалёка граніца — касцёл у Граеве відаць, можаш ісці смела, назаўтра табе харчы прынясу. Але перавялі мяне да другога гаспадара — там нас ужо дзесяць чалавек задумала ўцякаць. Адной ноччу дваіх уцякло, але іх у маліннíку злавілі. І тады завезлі мяне ў лагер; там я так аслаб, што калі сядзеў і адразу хацеў устаць, дык не мог, бо адразу падаў. У тым лагеры прабыў я год, а пасля завезлі мяне аж пад Гановер, у лесе рабіць. Дрэнна там не было: давалі *карткі*. Зойдзеш у *склеп*, калі тыя *карткі* канчаліся, то прадавец і без іх прадаваў.

Як пачалася вайна на ўсходзе, папаў я да аднаго гаспадара: гаспадар добры быў, а гаспадыня — як змяя! Прызвалі гаспадара ў Вермахт і перад адпраўкай на рускі фронт далі яму водпуск. У апошні дзень таго водпуску я ўсміхнуўся: Калі на фронт сёння — заўтра *Gefangenschaft* (ням.: няволя). Ён злякаўся, забараніў мне так гаварыць, бо, кажа, табе і мне будзе ў лоб. Жонка з куратніка двух пеўняў нясе, а я жартую, што калі б трох — то тры тыдні *звальнення* было б. Паехаў ён да дохтара, атрымаў два тыдні бальнічнага, а яго часць паехала на ўсходні фронт. Вылезлі яны з вагонаў, падышлі нейкіх пяцьдзесят метраў і... „Рукі ўверх!"; толькі адзін не папаў у палон! Майго гаспадара прызначылі ў другую часць, на заходні фронт, але ўжо як там апынуўся, на другі дзень у палон папаў: ці ты за мора, а за табою гора!

У канцы вайны занялі нас амерыканцы; да рускіх было сорак кіламетраў, і амерыканцы нас да іх адвезлі. Там я нейкі час кароў пасвіў, каб у бойню здаць. Пасля трапіў у зборны пункт і рускім эшалонам у Ілаву прыехаў. Добрыя хлопцы тыя салдаты былі; ад іх я даведаўся, што Беласток пад Польшчаю апынуўся. Развітаўся я з імі і падаўся на станцыю. Купляю білет у Варшаву, але мне грошай не хапае, толькі ў Насельск купіў. Адзін чыгуначнік параіў мне не выходзіць у Насельску, бо наступны поезд у Варшаву толькі праз 24 гадзіны; даў мне грошы і сказаў з кандуктарам дагаварыцца. Да Насельска кандуктара не было, а за Насельскам — адразу. Я паказваю яму свой білет, а ён мне яго забірае, быццам я зайцам еду. Разам са мною ехала яшчэ чатырох чалавек і яны ўступіліся за мною:

— Czy ten pociąg to pana własny? Czy ten pan nie zarobił za tyle czasu, żeby bez pieniędzy zajechać do domu? Tamten człowiek podarował, a ty zabrałeś i te jego pieniądze!

Аддаў ён усё і дармовы білет мне выпісаў. У Варшаве сустрэў я жанчыну, якая ў лагеры тры кіламетры ад мяне была; паўспаміналі пра аднаго англійскага вартаўніка, якога палякі застрэлілі, бо забралі ў аднаго немца вепрука і ў лагер везлі падзяліцца, а ён іх не хацеў прапусціць. Пакінуў я пры ёй свае валізкі, а сам пайшоў нешта купіць. Вяртаюся я па тыя валізкі, а яна на мяне: Odp... się! Але згаварыліся. У Беластоку на вакзале папаў я на рэвізію. Меў я яшчэ сто злотаў каб з Беластока ў Страбло заехаць. Стражнік забраў іх ад мяне „na Gwiazdkę dla sierot"; два гады пазней я сустрэў таго стражніка і расквітаўся з ім.

Дадому прывёз мяне адзін са Злотнікаў. Пайшоў я за клуню апраўіцца, а ён пытае хатніх, ці начлежніка прымуць. А незадоўга да таго мой бацька з хрышчоным клалі карты і ім выпала, што я ўжо тут-тут. То сястра адразу выбегла на двор да таго „начлежніка" і мне на шыю. Бацька адразу гарэлку паставіў, суседзі сышліся, а той, што мяне прывёз, толькі на другі дзень паехаў дадому.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота аўтара*

# У гонар Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай

Кафедры Беларускай філалогіі і Агульнага мовазнаўства Варшаўскага універсітэта арганізавалі навуковую канферэнцыю „Беларуская мова і культура ў кантакце з іншымі народамі" ў Варшаве ў днях 14—15 лістапада г.г.

Канферэнцыя была прысвечана памяці Прафесар Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай, стваральніцы польскай беларусістыкі. Удзельнікі канферэнцыі перад нарадамі склалі кветкі на магіле Нябожчыцы на могілках Павонзкі.

У канферэнцыі прынялі ўдзел шматлікія польскія і беларускія мовазнаўцы, літаратуразнаўцы і гісторыкі. Падводзячы вынікі нарадаў, праф. Альжбета Смулкова падкрэсліла, што канферэнцыя паказала, што прадоўжваецца праца пачатая А. Абрэмбскай-Яблонскай: „Атлас усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны", „Слоўнік мікратапонімаў". Вывучаецца таксама спадчына Міхала Федароўскага і трэба дапамагчы ў надрукаванні неапублікаваных яшчэ матэрыялаў вялікага фалькларыста. Тое самае тычыцца этналагічных прац і матэрыялаў Юзафа Абрэмбскага, даследчыка Палесся.

**Алег Латышонак**

# Алімпійскі сход

Сход Галоўнага камітэта Алімпіяды па беларускай мове адбыўся 27 лістапада ў Беластоку.

Сход падвёў вынікі працы камітэта за тры гады. За гэты час Алімпіяда замацавалася як частка адукацыйнай сістэмы. У чатыры разы ўзрасла колькасць удзельнікаў мерапрыемстваў, з 44 да 164. Алімпіяда карысна паўплывала на універсітэцкую беларусістыку — пабольшыўся прыток моладзі на студыі ў Варшаве.

Пасля прыняцця справаздачы старшыні камітэта праф. Аляксандра Баршчэўскага дыскутаваліся праблемы звязаныя з правядзеннем чарговай, IV Алімпіяды.

Камітэт прадоўжыў паўнамоцтвы свайго кіраўніцтва, у якім наступіла адна змена — на пасадзе навуковага сакратара сп. Тамару Русачык замяніла сп. Тамара Філіпчынская, супрацоўніца Кафедры беларускай філалогіі ў Варшаве.

**А. Л.**

# Новыя вершы

**Віктар Шніп**

* * *

Мы ідзём невядома куды,
Мы ўцякаем ад сну і жуды
І не бачым наперадзе дня,
Толькі чуем — за намі гайня,
Ад якой анідзе не ўцячы,
І над намі, як лёс, крумкачы.
Мы ідзём невядома куды,
І снягі, быццам з раю сады,
І вятры, нібы ў пекле пажар.
Мы ўцякаем ад явы і мар,
Ды ўцякаем, напэўна, дарма,
Хто ўцякае — таго ўжо няма,
Як няма ў дамавінах цяпла,
Як няма ў галавешках святла...

**Міра Лукша**

**Нарва**

Нарва
мая рака
рве мяне
як нарыў

разарала
парэзала
палі і дарогі
плёсы і лёсы

гароту размыла
падрубы і лес
морам разлілася
вырвала з каранямі

з выраю вярнуліся
не паверылі

**Барыс Руско**

**Канатаходцы**

Акунутыя ў прозе
пішуць вершы,
носяць гадзіннікі,
а час, як сцяг,
трапеча на ветры.
У мальбе да ўпаду,
а зямля крываточыць.
Спартрэтавалі Праўду
з профілю і анфас,
а мана
паўзе па вуліцы.
Гучныя тосты,
а строем самкнутым
ідуць у архіў.
— Мы людзі! — гавораць —
А рэха рагоча.

**Уладзімір Саўчук**

* * *

Няма ў душы маёй
ні радасці ні смутку
няма ў кішэні маёй
ўжо грошай на распусту
радзімы вулей рассохся
на падарожжы жыцця
а ў прагоні май
і бусел прынёс у гняздо
новае жыццё
вось і вясна заглянула ў Слабодку
і цёплы дождж
арасіў сівыя загоны
а вясёлка завязала
хустку
над лесам бандарскіх
сяброў

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 4**

Практычна ўсе даследчыкі беларускай пісьмовасці згодна сцвярджалі, што ў сувязі з тым, што „Наша доля” жорстка праследавалася цэнзурай з прычыны яе грамадскага радыкалізму, выдаўцы спынілі яе друк і пачалі выдаваць больш памяркоўны палітычна тыднёвік „Нашу ніву”. Такі погляд не знаходзіць пацвярджэння ў фактах, якія сведчаць аб тым, што „Наша доля” і „Наша ніва” выдаваліся рознымі людзьмі, якія не знаходзіліся з сабой у найлепшых адносінах. Справу гэту выясняюць дзве публікацыі. Адна з іх была надрукавана ў пятым нумары „Нашай долі” пад загалоўкам „Да чытацеляў”, у якой галоўны выдавец тыднёвіка Янук Тукеркес напісаў:

«Дзякую ўсім маім прыяцелям, што дагэтуль пісалі да „Нашай долі” і прашу не забываць і пісаць зноў.

У Вільні цяпер выдаюць другую беларускую газету, называецца яна „Наша ніва”, шмат людзей думалі, што „Наша ніва” выходзіць уместа „Нашай долі”. Дык я заяўляю вельмі паважаным чытацелям, жэ „Наша доля” нічога агульнага не мела і не маець з „Нашай нівай”».

Заява гэта была змешчана 18 лістапада 1906 года, як ужо было сказана, у пятым нумары „Нашай долі”. Першага снежня 1906 года выйшаў у свет, як аказалася, апошні нумар „Нашай долі”, хаця ў канцы гэтага нумара рэдакцыя заахвочвала чытачоў падпісвацца на газету.

Дзесятага лістапада 1906 года ў той жа Вільні быў выдадзены першы нумар новай газеты „Наша ніва”.

Аб тым, што новы тыднёвік не меў нічога супольнага з „Нашай доляй” можа сведчыць і тое, што чатыры першыя нумары „Нашай долі” друкаваліся ў „Типографии «Артель Печатного Дома»”, пяты нумар у „Drukarni M. Romma”, а шосты ў „Drukarni A. G. Syrkina”, а „Наша ніва” — у „Друкарні М. Кухты”.

Аб непаразуменні, а нават канфлікце між выдаўцамі „Нашай долі” і „Нашай нівы” сведчыць таксама артыкул „Ад рэдакцыі”, змешчаны ў другім нумары „Нашае нівы”, які выйшаў 17 лістапада 1906 года. У гэтай публікацыі між іншым гаварылася:

«Чытацелі і ўсе заінтэрэсаваныя, хто падпісаўся на „Нашу долю” прыходзілі да рэдакцыі „Нашай нівы” пытацца, чаму „Наша доля” так доўга не выходзіць, ці выйдзе яна калі і чы то праўда, што пан Тукеркес памяшчае ў газэтах аб'яўленне аб падпісцы дзеля таго, каб папраўіць сваю кішэню, катораю падарвалі частыя канфіскацыі „Нашай долі”? Рэдакцыя „Н. нівы” на гэта адказаць не магла і нічога не адказала. Даведалася яна толькі адно, што ніхто з бышых сатруднікаў рэдакцыі „Нашай долі” працаваць з панам Тукеркесам не будзе; такім парадкам ёсць прычына думаць, што „Н. доля”, калі і патрапіць выйсці, то ўжо не будзе такая як была раней. У № 143 „Свободного слова” 14 ноября 1906 года пан Тукеркес напісаў пісьмо, гдзе лаець рэдакцыю „Нашай нівы”. Мы на гэта пісьмо адказваць не будзем нічога, бо з людзьмі некультурнымі не хочэм мець ніякага інтарэсу. Пан Тукеркес абяцуе, што ў гэтым тыдню выйдзе галоўны нумэр „Нашае долі” і будзе яна такая як была дагэтуль. Калі гэта праўда, то няхай Бог яму паможэ».

Зразумела, што ў святле прыведзеных фактаў нельга гаварыць аб „Нашай ніве” як прадаўжэнні „Нашай долі”. Аднак можам сказаць аб падабенстве між гэтымі выданнямі. Праяўлялася яно ў вельмі падобнай форме „Нашай долі” і „Нашай нівы”, а таксама ў тым, што як у першым, так і ў другім тыднёвіку друкаваліся творы тых самых беларускіх пісьменнікаў.

Ва ўступным артыкуле без загалоўка — у першым нумары „Нашай нівы” ананімны аўтар выразна паспяшаўся, напісаўшы: «„Наша ніва” будзе другой беларускай газэтай — першая газэта „Наша доля” не жывець». Справа ў тым, што першы нумар „Нашае нівы” выйшаў 10 лістапада 1906 года, а 18 лістапада і 1 снежня 1906 года выйшлі яшчэ пяты і шосты нумар „Нашай долі”. Хаця катэгарычна аб размерах маны гаварыць нельга з тае прычыны, што рэдакцыя „Нашай нівы” прыводзіла даты паводле новага і старога стылю тады, калі рэдакцыя „Нашай долі” карысталася толькі адным, невядома, старым ці новым стылем.

**Алесь Барскі**

<u>На мой розум</u>

# Дзядзька Ліяш

Калі нехта ў нашай вёсцы хістаўся, ці заняць такое, або іншае становішча, або меў нейкія жыццёвыя цяжкасці, адсылалі яго за парадаю да Ліяша. Не было такога, каб той не ведаў, як параіць. Усё браў на просты розум. Не, ніколі не сказаў, што мусіць быць так, а не інакш. Парад канкрэтных не даваў, але выслухаўшы, заўсёды пачынаў: „На мой розум павінна яно быць так і так...” Нездарма і пайшло па вёсцы „Ліяш на мой розум”.

Люшка, бо і так яго называлі — гэта мясцовая энцыклапедыя. На добрую справу, то і сам ён не ведае колькі яму гадоў, а жонка тым больш. „Ці улюблёныя за часам назіраюць?” — паўтараў словы Грыбаедава. Веды і памяць то ён меў. Гадоў сваіх мог не лічыць, але што ў краіне, на свеце, а ўжо ў сваёй вёсцы дзеецца, яму было дакладна вядомае. Хутчэй у полі сена змокне, чым ён навін не выслухае. Едзе фураю праз вёску, а на кланіцы транзістар вісіць.

— Хлопцы! — гаварыў, хаця мала хто ў гэта верыў. — Той, хто пераехаў матушку Расію — дурным быць не можа.

Задумваўся пры гэтым і скубаў сваю доўгую белую бараду. Гаварылі, што нават самога цара бачыў.

— Праўда гэта? — пыталі яго.

— Праўда ці няпраўда, але ведаю, як называўся! — адказваў Ліяш.

Адно праўда, што свету з'ездзіў нямала і не адно бачыў, не адно чуў і многае ведаў. А яшчэ больш выдумоўваў. Нездарма называюць яго філосафам. Калі чаго не ведаў, абсалютна да гэтага не прызнаваўся.

— Дзядзька Ліяш! Кажаце, што былі вы ў Сібіры. Ну, а апельсіны вы там бачылі? — пыталі яго.

— Што гэта такое — ці бачыў? — Я іх не толькі бачыў, але рабіў! — горда адказваў і рабіў надта ж разумны выгляд.

— Але карабля напэўна не бачылі?

— Не бачыў! Не бачыў! Я нават яго еў.

Настолькі быў ён усяго цікавы, што цэлымі днямі сядзеў на лаўцы ля плота, а ў непагадзь — у адчыненым акне, аблакоціўшыся на падаконнік. Нават ноччу без яго ведама зорка не магла з неба ўпасці. Аднойчы амаль да трагедыі ў вёсцы не дайшло. Далёка за поўнач Дамінка Канцавая з суседкай Насцяю з кудзельніц вярталіся. Вядома, як бабы — загаварыліся на пасядушках. Ідуць, снег скрыпіць пад нагамі, бо мароз усільваўся, гарэлка, якой гаспадыня пачаставала, грэе, ды лапочуць бы мала нагаварыліся. Люшка не спаў у гэтую пару, ды, зрэшты, невядома калі і колькі спаў. Гаварылі, што ён, так як Сталін, думае за народ і спіць не больш трох гадзін у суткі. Зімняй ноччу, калі дрэвы акалелыя ад холаду, голас чутна далёка. Вось, пачуўшы яго, Люшка вылецеў у самых кальсонах з выкасанай наверх сарочкаю на сярэдзіну вуліцы і давай угледзяць, хто гэта ідзе. Дамінку, нягледзячы на зіму, халоднай вадой адліваць прыйшлося, а суседка, каб не мясцовая бабка, хто ведае, як доўга ікалася б.

Каму можа гэта і жартачкі, а мне і цяпер не да смеху. Было гэта свежа па тым, як Стась Кавалёў павесіўся. Дзевяці дзён нават ад таго не мінула, а гэта значыць, што душа па вёсцы ходзіць. Да таго яшчэ злому запроданая. Падумаць толькі, ідзеш сабе вуліцай, ад месяца відна, а тут як з-пад зямлі нешта ў белым вырастае! Кудлатая морда ды рукамі, як пудзіла, вымахвае.

Такім вось быў Ліяш. Такім ён ёсць і цяпер — дзіваком для тых, якія не разумеюць новага і мудраком для тых, што любяць слухаць яго разважанні. А ён знае многае — і ад хвароб загаворыць, і прашэнне ва ўстанову напіша, а нават, калі акушэрка не даедзе, удачнай дапамогаю суседцы прыслужыцца.

Вось які Ліяш. Цэлая яго хата ў кнігах ды газетах. Усё бярэ на свой розум. Усё па-свойму тлумачыць. Адным словам — на логіку. А штодзённасць не заўсёды логікай кіруецца. Паслухайма тады, што думае дзядзька Ліяш.

*(працяг будзе)*

**Міхась Шаховіч**

# Дзіўныя здарэнні ў Скупаве і Нараўцы

У сваім артыкуле „Што лётае над Белавежскай пушчай?” („Ніва” н-р 43 ад 26.X. 1997 г.) я апісаў два выпадкі назіранняў на гэтай тэрыторыі неідэнтыфікаваных лётаючых аб'ектаў (НЛА). Пры нагодзе звярнуўся я да чытачоў з просьбай папоўніць распачаты мною спісак назіранняў, ведама, калі хто-колечы сутыкнуўся з НЛА. Пакуль што ніхто не адгукнуўся. Але я ўсё ж не губляю надзеі. У тым часе я напісаў аўтару названай мною ў артыкуле кніжкі „Блізкія сустрэчы з НЛА ў Польшчы” Браніславу Жэпэцкаму з Кракава, каб ён падзяліўся інфармацыяй, ці апісаны ў ягонай кніжцы выпадак назірання НЛА з-пад Гайнаўкі з'яўляецца адзіным такім выпадкам на Гайнаўшчыне, зарэгістраваным кіраванай ім Групай даследаванняў НЛА. Аказваецца, што не! Б. Жэпэцкі даслаў мне адбітак „Хронікі НЛА”, якую ён вядзе ў часопісе „Wizje peryferyjne”. У 6 н-ры таго ж часопіса ад студзеня-лютага 1997 г. апісваюцца два іншыя выпадкі — са Скупава і Нараўкі.

Пра назіранне са Скупава ёсць няшмат інфармацый. Супрацоўнічаючай з групай даследаванняў НЛА Катажыне Бяляўскай удалося ўстанавіць толькі тое, што ў адным з першых дзён жніўня 1995 г., ноччу а гадз. 00.25, 8 чалавек прыкмецілі над лесам вялікі шар, які знік за гарызонтам, а потым ізноў паказаўся, каб паўторна знікнуць, астаўляючы аранжавую паласу. Напрамак назіранняў — паўднёва-ўсходні.

Больш падрабязна апісаны быў выпадак з Нараўкі. Было гэта 30 жніўня 1995 г. Чатыры дзяўчыны, жыхаркі Нараўкі, пайшлі на дыскатэку ў Гмінным асяродку культуры. Забаўляліся да поўначы. Калі ўжо ішлі апусцелай, цёмнай вуліцай дамоў, прыкмецілі, што адна з крамаў мае ўключаны сігнал трывогі — чырвонае мігцеючае святло. Дзяўчыны падумалі, што хтосьці ўзламаўся ў краму і паскорылі крок.

Анеля жыла найбліжэй. Уваходзячы ў дом прыкмеціла на сцяне суседняга аблёка неакрэсленую пляму святла. Крыху яна яе здзівіла, але дзяўчына ўвайшла ў сваю кватэру і лягла спаць.

Астатнія дзяўчыны ішлі далей. Кася ў нейкі момант адвярнулася ва ўсходнім напрамку і ўбачыла белае зарыва. Аднак нічога не сказала сяброўкам, таму што падумала, што святло гэтае паходзіць ад непадалёкага прадпрыемства. Усё ж, калі дайшлі да яе дома, прыкмецілі, што да іх набліжаецца нейкае святло. Ад яго адыходзілі доўгія, круцячыеся снапы святла, якія ішлі ўгору і падалі ўніз. Перапалоханая Кася хутка ўвайшла ў дом. Не магла заснуць, раздумоўваючы, ці яе сяброўкі шчасліва дабраліся да сваіх дамоў. На панадворку раздавалася пранізлівае мяўканне катоў.

Калі Эдыта і Эльвіра, таксама спалоханыя, беглі дамоў, час ад часу азіраючыся за сябе, святла і паласоў ужо не было відаць, толькі яснае зарыва.

Усё здарэнне працягвалася каля 10 мінут. На другі дзень дзяўчаты нейк дзіўна сябе адчувалі, смяяліся без прычыны, з вачэй цяклі ім слёзы. Чым магло быць гэтае пагаслае святло — цяжка здагадацца. Напэўна не былі гэта аўтамабільныя фары. Палосы таксама не маглі паходзіць ад непадалёкага прадпрыемства. Дзяўчыны сцвярджаюць, што святло паявілася знянацку і было большае ад поўнага месяца. Мусіла яно знаходзіцца нізка над зямлёй. Палосы былі доўгія, узвышаліся па-над стрэхі дамоў, а гарызантальна даходзілі аж да касцёла, значыць, на адлегласць звыш 100 метраў. Варушыліся яны ў розныя напрамкі, вярцеліся, адзін на момант асвятліў Эльвіру, але яна не адчула ніякага ўздзеяння. Усё праходзіла ў поўнай цішыні. Толькі ў той момант, калі паявілася святло, Эльвіра пачула нейкі гук „быццам самалёт стартаваў ці прызямляўся”.

Столькі фактаў зарэгістраваных спамянутай ужо К. Бяляўскай. Б. Жэпэцкі прыкмячае, што без адказу астаецца пытанне, ці святло было адказнае за ўключэнне сігналізацыі ў краме, а таксама непадалёк у рэстаране, што сцвердзіла ў гэтую ноч а гадз. 2.00 сама К. Бяляўская. Не высветленым астаецца факт знаходкі нежывога пацука (у яго вуху была застылая кроў) на другі дзень за дамамі, у месцы праўдападобнага прызямлення і слядоў па „кольцах ад ступняў”, аб якіх успаміналі дзяўчыны.

А мо яшчэ нехта з жыхароў Скупава ці Нараўкі, непасрэдных сведкаў апісаных здарэнняў, можа нешта дакінуць да ўжо вядомага? Ад таго часу мінула, праўда, два гады, але ж пра нешта незвычайнае памятаем даволі доўга.

Калі б хто захацеў пераказаць свае назіранні непасрэдна Групе даследаванняў НЛА, падаю адрас: Grupa Badań NOL, ul. Józefa 22/14, 31—056 Kraków. Пад тым самым адрасам змяшчаецца заадно і рэдакцыя часопіса „Czas UFO”.

**Пётр Байко**

# „Коровка” — produkt polski

**Тоны цукерак „каровак” для ласомых масквічоў дзень і ноч імчацца з Нараўкі.**

Ды і не толькі ў Маскву. У Самары і іншых гарадах неабдымнай Расеі нараўчанскім вырабам з ахвотай заклейвае свае шматмоўныя раты шматнацыянальнае насельніцтва імперыі. 99% вытворчасці сямейнай фірмы „Эсан” Яўгена Салагубы з Варшавы (ён родам з Нараўчанскае зямлі) ідзе на экспарт, са знакам якасці „PRODUKT POLSKI”. Месячна ў нараўчанскай фабрыцы цукерак выпускаецца каля 60 тон вырабаў. А едуць „кароўкі” заваёўваць рынак, дай Божа далей так паспяхова, сапраўды днём і ноччу, так як і дзейнічае прадпрыемства, якое працуе на тры змены (у чатырох брыгадах), 18 асоб (ад прыбіральшчыцы, цераз „гатавальніка” да загадчыцы) выпускае цукеркі ў шасці смаках; сам пералік наводзіць аскому: малочныя, мядовыя, какававыя, какосавыя, макавыя, сезамавыя, арэхавыя, „інка”. Сыравіна — малако, цукар, сіропы і дадаткі бяруцца ў большасці ад рэгіянальных пастаўшчыкоў — з Гайнаўкі, Беластока, Ломжы, а таксама з Варшавы.

Яўген Салагуба не мусіць асабліва пільнаваць інтарэсу на сваёй бацькаўшчыне, бо сачыць за ім і не трэба — кожны пільнуецца свае работы, зарабляюць тут някепска, не наракаюць.

Машыны гудзяць — падумаў бы хто, цукерачная справа ціхая? — што ледзь можам сябе пачуць у канторы загадчыцы Зінаіды Лукшы. Што і раз забягаюць працаўнікі — тут гаворыцца пра тоны цукру! У вялізных „бляхях” — кававага колеру гладкая маса. З гэтага ўжо смачнага на выгляд цеста выцягваюцца доўгія пасы, якія роўна сунуцца пахучым цягам да наступнай машыны. А з яе выскакваюць вядомыя нам усім салодкія, гнутка-крохкія кубікі, а зараз і выпадаюць у скрыню, абгорнутыя ў адпаведныя этыкеткі з пярэстай кароўкай, з надпісамі па-польску і на мове імпарцёра: „Коровка” — produkt polski.

— Маглі б мы іх рабіць яшчэ больш, — кажа загадчыца, — абы былі магчымасці з сыравінай.

Значыць — задаволеныя ўсе. Уласнік фірмы сп. Я. Салагуба хіба найбольш — фабрыкант ён сур'ёзны, дае працу землякам і салодзіць жыццё братнім народам.

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*



# Аб гэтым трэба памятаць!

У 45 нумары „Нівы” ад 9 лістапада г.г., у публікацыі „Бывае і такая” Я.Ц. намагаецца паказаць нам сучасную моладзь і адсутнасць у яе паводзінах т.зв. элементарнай культуры. А дзе ж вы бачылі іншую моладзь? Ці на вуліцах нашых гарадоў і вёсак, у аўтобусах гарадскога транспарту, ці ў іншых публічных месцах сустрэнем не такую ж моладзь, якая ездзіць аўтобусам на лініі Гайнаўка—Нараўка—Беласток? Ці гэтая моладзь інакш сябе паводзіць?

Паспрабуйма вярнуцца ў нядаўнае мінулае. Ужо год раней, у 2 нумары „Нівы” ад 14 студзеня мінулага года ў публікацыі „Як выхоўваем, так і маем!” я намагаўся паказаць, што сабой прадстаўляе моладзь, якая кожны дзень ездзіць цягнікам з Чаромхі ў Бельск-Падляшскі ў сярэднія бельскія школы. Хачу прытым прыкінуць, што і зараз нічога ў гэтай справе не адмянілася на лепшае. Адзін садом ды гарома! Неаднойчы мне прыходзілася звярнуць увагу такому асобеню, які матаўся без прычыны па саставе поезда з папяросай у зубах ды шыў „мацюгамі”. У адказ звонкім рэхам пракаціўся па вагоне толькі грубы смех падростка. Больш нічога! Толькі некаторыя падарожныя кінулі позірк у мой бок, быццам бы гэта я быў назолам і парушыў іхні спакой, а не гэты „малалетка”. Ніякай культуры, ніякай пашаны для старэйшых... Іншы прыклад. У летнюю пару завітаў да мяне журналіст Беластоцкага тэлебачання, каб зрабіць матэрыял для беларускай перадачы. Калі апаратар запісваў са мною размову, вуліцай праходзілі трох вучняў бельскай школы, якія вярталіся дамоў з цягніка. Раптам пачуўся шум лісцяў на дрэвах і побач нас грымнуў вялікі камень. Нашаму здзіўленню не было канца. Калі ў той жа дзень пайшоў я да бацькі хлопцаў (ведаў я канкрэтна, хто гэта зрабіў), бацэнька (паважаная персона ў нашай вёсцы) не толькі намагаўся апраўдаць нягодных хуліганаў, але праз некалькі дзён пазней проста заявіў мне: „Гэта не мой зрабіў, а сваяк. Мой бы не змог такое здзейсніць”. І што я меў сказаць? Даказваць? Сведкаў прыводзіць? Пайшоў я ні з чым сваёй дарогай. Вось, даражэнькія, як зараз справа маецца з бацькамі.

А цяпер наконт адукацыі і выхавання. Аж верыць не хочацца, што такі чалавек як Я. Ц. жыве дагэтуль у несвядомасці і толькі „знаёмыя яму сказалі, што зараз школа толькі вучыць, а выхоўваць не мусіць”. І я з гэтым згодны, паважаны калега!

Аб тым, што цяжар выхавання дзяцей спачывае на настаўніках і школе гаварылася пры камуне. І добра мы ўсе аб гэтым памятаем. Але тады былі іншыя часы, іншая дысцыпліна ў школе. У пяцідзесятых ці шасцідзесятых гадах вучням дазвалялася толькі да восьмай гадзіны вечара прабываць у публічных месцах. Настаўнік за кару мог пакінуць пасля заняткаў вучня (у нас называлі гэта „казой”) у школе, паставіць у кутох на калені, або шпарнуць „лапу” (лінейкай па далоні). Бацькі таксама інакш ставіліся да справы выхавання.

Зараз усё адмянілася. Маем дэмакратыю і свабоду. Такую ж свабоду далі мы і сваім дзецям. Аднак самае дрэннае тут тое, што мы, бацькі, не толькі не цікавімся выхаваннем сваіх дзяцей, але гэты абавязак хочам перакінуць на некага іншага (аб школе найчасцей гаворка ідзе). Ці гэта лагічныя думкі? І зноў прывяду прыклад. Пэўна ўсім стала вядома, які ход узяла справа радамскага самаўрада, які сваім рашэннем пачаў уводзіць паліцыйныя кантролі школьнай моладзі. Колькі крыку, колькі шуму! Нават абаронца грамадзянскіх правоў заявіў, што гэта быццам бы парушае свабоду дзіцяці.

Аб якім выхаванні можа быць зараз гаворка? Хто мае гэта рабіць? На маю думку — бацькі. Гэта нашы дзеці. І як указвае Канстытуцыя, цалкавіты цяжар выхавання дзіцяці на прыкладнага грамадзяніна спачывае на нас, бацьках. І аб гэтым трэба памятаць!

**Уладзімір Сідарук**

Адгалоскі

# Не ўводзьце чытачоў у зман

Карэспандэнт-пачатковец, які хаваецца пад літарамі (ям), напісаў няпраўду пра сустрэчу часткі ўдзельнікаў II З'езду беларусаў свету ў прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі („Ніва” № 32, с. 4). Адкуль ён узяў лік 75 удзельнікаў, калі відаць было іх намнога больш? Таму звяртаюся да Адміністрацыі Прэзідэнта РБ праінфармаваць нас праз пасрэдніцтва Консульства ў Беластоку пра колькасць удзельнікаў гэтага спаткання, бо мы, чытачы, хочам ведаць праўду, а не хлусню. Хачу (ям) паведаміць, што прэзідэнт гаварыў, што бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня пасля 1941 года выкарыстоўваліся ў Беларусі гітлераўцамі і многім беларусам асацыюю цца яны з акупацыяй і гітлераўскім тэрорам. Я хацеў бы ведаць, якімі матывамі пры падборцы колераў кіраваліся стваральнікі сцяга, бо, паводле мяне, не мае ён нічога супольнага з беларускай традыцыяй. На рэферэндуме прапанаваліся абодва сімвалы, але народ выбраў цяперашні.

Аўтар (ям) піша, што пасля прэзідэнта голас узяў старшыня БГКТ Ян Сычэўскі. Гэта лухта і хлусня. Калі час выступленняў падзяліць на паловы, тады Ян Сычэўскі выступаў у другой палове і без ніякіх эмоцый. Гаварыў ён толькі пра дасягненні БГКТ і яго праблемы, аб дапамозе ўлад Беларусі ў пабудове музея і за гэта падзякаваў не прэзідэнту, але тым, што памагалі. Старшыя БГКТ успомніў яшчэ аб ініцыятыве пабудовы помніка праваслаўным Беласточчыны.

Гэты ж карэспандэнт піша, як адчувае сябе быццам бы ўся інтэлігенцыя. Каго ж тады прыліч ае ён да гэтай інтэлігенцыі. Лічу, што нязначная частка апазіцыйна настроенай інтэлігенцыі думае так, як піша (ям). Здзівіла мяне слова „ўсенароднаабранага” ў двукоссі. Дакажыце мне, што прэзідэнт не быў абраны пераважнай большасцю беларусаў. Такім чынам аўтар абражае беларускіх выбаршчыкаў, лічачы іх невераго днымі і несвядомымі. На нацыяналізм і шавінізм аўтара паказвае прымяненне слова „чарнасоценны”. Пацвярджаю, што прэзідэнт Лукашэнка сказаў, што нацыяналісты імкнуцца ўцягнуць Беларусь у НАТО.

**Канстанцін Масальскі**

PS. Уніяцкі ксёндз, які прысутнічаў на з'ездзе, выводзіцца з праваслаўнай сям'і. Ужо ў праваслаўнай семінарыі думаў ён перайсці ў каталіцтва. Ён адрокся ад веры сваіх продкаў і бацькоў. Пазней вымусіў ад праваслаўнага епіскапа, каб той рукапалажыў яго ў праваслаўнага свяшчэнніка. Падчас навукі ў Загорску патаемна перайшоў у каталіцтва. Затым пры падтрымцы кардынала Вышынскага вучыўся ў Польшчы, адкуль вярнуўся ў Мінск у якасці каталіцкага ксяндза. Калі дзеячы БНФ аб'явілі, што сапраўднай верай беларусаў з'яўляецца уніяцтва, кс. Ян Матусевіч перамяніўся ва уніяцкага святара.

**М. С.**

**Ад аўтара:** Пра лік 75 удзельнікаў, запрошаных прэзідэнтам, інфармавала лукашэнкаўскае тэлебачанне. Астатнія прысутныя ў зале — гэта супрацоўнікі прэзідэнцкай адміністрацыі і службаў дзяржаўнай бяспекі. Тое ж тэлебачанне — прэзідэнцкае — інфармавала таксама, што зараз пасля Лукашэнкі выступалі замежныя госці і як першага прадставілі Яна Янавіча Сычэўскага. Спадар Масальскі піша, што бел-чырвонабелы сцяг не мае нічога супольнага з беларускай традыцыяй. Беларускім сцягам, відаць, лічыць ён той, які ў дваццатыя гады прыдумалі чэкісты, а цяпер вярнуў яго Лукашэнка. Пад гэтым сцягам пры канцы трыццатых гадоў энкавэдзісты вымардавалі амаль усю беларускую інтэлігенцыю. І гэтыя сімвалы энкавэдзістаў маюць нешта супольнае з беларускай традыцыяй?! Апамятайцеся, спадар Масальскі! **(ям)**

# У гайнаўскай бальніцы

Здаецца, не так даўно былы прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч адкрываў бальніцу ў Гайнаўцы, а ўжо і мне самому прыйшлося мець з ёю дачыненне. У снежні мінулага года ляжаў там Міхась С., якога лекары не змаглі выратаваць, а гэта таму што ўнутры ў яго было ўсё папалена ад гарэлкі (піў ён і дэнатурат). Няхай яму зямля будзе пухам.

Цяпер там ляжыць мая жонка і мне прыходзіцца бываць у бальніцы часцей. Калі лепей усяму я прыглядзеўся, дык заўважыў, што там чысціня і прыкладны парадак. Працаўнікі бальніцы, пачаўшы ад лекараў і на прыбіральшчыцы скончыўшы, вельмі ветлівыя. Калі хто не ведае куды зайсці, яны давядуць ды падкажуць.

Жадаю ўсім працаўнікам бальніцы ў Гайнаўцы шчасця ды здароўя ў іхнім асабістым жыцці і задавальнення ад сваёй працы і ветлівасці ад сваіх пацыентаў.

**Мікалай Лук'янюк**

# Парнасік

### Анатомія стомы

Ёсць месца, дзе грошы якраз непатрэбны,
Ні модныя ўборы, прычоскі з цырульні,
Там ветру ў пэйсах свабодныя гульні,
Нікому не шкодзіць касцюм некамплектны.
Там ніва шуміць калыханкай утульнай,
Галінамі лес па галоўцы пагладзіць,
А кветкі мільёнам вачэй там на лузе
У вочы заглянуць з нямым спачуваннем,
Скуголіўшы ў болю там, раны лізаўшы,
Расказваць аб розных няўдачах, крушэннях,
Хоць гэты дыялог бы „дзед да абраза",
Але ніхто не смяецца напэўна.
Там месяц пабыць, добра нават і тыдзень .
Ды нельга ніяк. Ой пусціце, пусціце!
А потым як-небудзь вярнуцца ў горад,
Дзе грошай дадуць і талонамі накормяць.
І можа ўдалося б святую ідэю,
Хоць свет заглушыць яе хоча па-хамску,
Праз буры-хаўтуры пранесці як-небудзь,
Яшчэ й хараства хоць бы жменю таксама.

*1983 г.*, **Цётка Мальвіна**

### Вандал Арлянскі

Вандал Арлянскі,
Думаю, што ён чалавек просты,
не „панскі",
І гэта псеўданім.
Толькі хто хаваецца пад ім:
Вучоны, літаратар, крытык, мо селянін?
Безумоўна — ён паэт і літаратар
З прызвання і не аматар.
Па няпраўдзе бічом сваім б'е
І ў „Ніву" плён прыносіць і шле.
Літаратурны стыль даволі складаны,
Але не чуваць здзекаў і маны.
Яго *прытовесці-прыказкі* —
Гэта не байкі і казкі;
Хаця і гэта ён можа пісаць
Каб нашу спадчыну і гісторыю
ратаваць.
Гэта беларускі Салтыкоў-Шчадрын,
Чалавек адкрыты, не *ўрэдны*.
Адкрывае нашы памылкі
І бярэ на свае „вілкі"
Каб кінуць у гарачую печ —
Гэта свяшчэнная рэч!
А мо Вандал — новы
Аркадзь Аверчанка? —
Дасканалы сатырык і любіць рэчаньку,
Якая плыве ля Орлі лугамі,
Багатая плоткамі, акунямі,
шчупакамі...
Псеўданім гэты — цікавая таямніца:
Ці гэта штаны, ці мо спадніца?
Хутчэй гэта мужчынскі пол,
Які літаратурнай працай дае свой укол.
А калі Арлянскі — ён арол,
Яму не чужы, а блізкі наш двор.
Дзе арол гняздзіцца —
вялікая пашана,
Гінуць няхлюйства, бруд і мана.
Цяжкі і загадкавы яго
літаратурны стыль,
І жанр галоўны — рэчаіснасць і быль.
Трэба мазгаўнёю паварушыць
Каб гэтай вады даволі папіць.
Думаю: хто „Ніваю" цікавіцца
І гульнямі не бавіцца,
Зразумее Арлянскага Вандала
З роднага беларускага двара.

**Мікалай Панфілюк**

### Мікалашка

Ой ты, Мікалашка,
Каб цябе халера,
Ты замнога пішаш,
Табе мала верацць.
Ты пачаў замнога
Уладу крытыкаваці;
Знай, што будзе цяжка
Табе далей пражываці.
Браўся ты за левых,
Цяпер у цябе правы.
Знай, яны не зробяць
Нам у дзяржаве славы.
Яны толькі будуць
Для сябе старацца
Каб камуну разбіці,
З Захадам з'яднацца.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Дарагі Астроне. Ізноў я да цябе за парадай. Ужо, ведаеш, мо і не доўга мне тут, на гэтым свеце быць, бо сны, бадай, мне хуткі канец прадвяшчаюць.

Калісьці, калі я была яшчэ дзяўчынай, да нас зайшоў нейкі мужчына. Трымаў ён у руках кніжку. Увайшоў у хату і кажа маме, што паваражыць, скажа, колькі яна будзе жыць. Мама згадзілася. Сказаў, што яна будзе жыць 62 гады. А тады звяртаецца да мяне ды кажа: „А ты будзеш жыць 80 гадоў!" І падумай, Астроне, то ж і памерла мая мама, як сказаў гэты варажбіт.

Чаму я да гэтага вяртаюся, мне ж яшчэ 70 нядаўна споўнілася. А таму, што вось што мне прыснілася, ці здалося, сама ўжо не ведаю. Чую нейкі голас. Гаворыць ён, што мне ўжо 80 гадоў і пара свет гэты аставіць. А я яму кажу: „Не, мне ж толькі 70 скончылася!" Ён на гэта: „Так, усё ў парадку — там 10 гадоў дадаюць". І тут я прачнулася.

А вось другі сон. Прыйшла да мяне на кватэру мая мама і кажа: „Ну, пара ўжо табе ісці — збірайся!" Я глянула ў вакно, а там на вуліцы фурманка стаіць. Гэта мы маем на ёй ехаць. Я сабралася і мы з мамай выходзім з кватэры. Ці паехалі? — не ведаю.

**Кацярына**

Шаноўная Кацярына! Што датычыць першага сну, дык, мяркую, ты пра смерць занадта многа думаеш — вось і сніцца табе такое. Гэтая няшчасная лічба „80" засела ў тваёй галаве і ты ўсё жыццё да яе прымерваешся.

Аднак жа не выключана, што ты можаш захварэць, але не мусіць гэта быць цяжкая хвароба. Цяпер зіма, можа прастудзішся. Пра гэта можа сведчыць другі твой сон — пра маці і фурманку. Здароўе можа быць няпэўнае, але смерць пакуль што яшчэ не прыйдзе.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. напр. Кляшчэлі, 4. зорка ў сузор'і Арыёна, 6. крылаты конь паэтаў, 7. адміністрацыйная адзінка ў Манголіі, 9. рака ў Пакістане, 11. савецкі лідэр, які на сесіі ААН выступаў без аднаго бота на назе, 12. Светазар, славацкі пісьменнік (1847—1916), 13. маці Каіна, 15. Роберт, англійскі паэт (1774—1843), 17. шайка, 18. Юзаф, польскі гісторык і пісьменнік, 19. аб'ява аб канцэрце.

**Вертыкальна:** 1. сталіца Сьера-Леоне, 2. Якаб, славенскі кампазітар (1550—91), 3. правы прыток Дзвіны, 4. горад на Віцебшчыне, 5. мужчынскія ганады (мн. лік), 6. прыводзіць у рух яхту, 8. частка канечнасці пасля ампутацыі, 9. горад між Лідай і Валожынам, 10. лік, 14. Яўген, савецкі скульптар (1908—74), 16. горад на поўначы Эквадора, 17. знак прыпынку. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 43 нумара**

**Гарызантальна:** Лхаса, Ліспектар, пікап, Тымор, фея, Варшава, верніца, Ева, Тонга, ківер, Артымовіч, Таніт.

**Вертыкальна:** насенне, Лісіп, актэт, Лукашэнка, Рамановіч, пуант, рыцар, фае, Ява, Вермонт, астат, кювет.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

Адгалоскі

# Праўда вочы коле

Хацелася б сказаць, што Юрка Іванчук (аўтар адгалоскі „Вакол школы ў Малінніках", „Ніва" № 47 ад 23 лістапада 1997 г.) чуў звон, але не ведае дзе ён. Хаця аўтар у час ваеннага становішча быў першым сакратаром Гміннага камітэта ПАРП і ведае беларускую мову, аднак не зразумеў майго артыкула („Настроі вакол школы ў Малінніках", „Ніва" № 43 ад 26 кастрычніка 1997 г.) і піша зусім не на тэму. Не з'яўляецца ён таксама пастаянным чытачом „Нівы", бо інакш бы ведаў, што ў Малінніках традыцыйна беларускіх газет не чытаюць. Пісаў я аб гэтым не раз.

Спадар Юрка Іванчук піша, што Маліннікі ляжаць на граніцы дзвюх культур — беларускай і ўкраінскай. Прызнаюся, што да гэтай пары я такога не чуў. Скалясіў я малінніцкае наваколле дакладна і ніякай граніцы не бачыў. Праўда, у пачатку вёскі стаіць — быццам пагранічная застава — крама, якую лежма вартуюць мясцовыя мужыкі. Хачу суцешыць аўтара адгалоскі, што ўкраінскі бок не цікавіцца жыхарамі Арлянскай гміны, бо калі б было інакш, то я меў бы магчымасць пісаць у штоквартальнік „Над Бугом і Нарвою".

На канец Ю. Іванчук раіць рэдакцыі памяняць свае адносіны і стаць аб'ектыўнай... Ну што ж, чужая рада настолькі добрая, што можна ёю не пакарыстацца. І я, праяўляючы дбайнасць пра беларускую культуру, таксама ёю не пакарыстаюся, каб не ігнараваць грамадскіх праблем і ўсхваляць балаган ды негаспадарлівасць.

Праблема ўтрымання малых школ, калі ў гмінным цэнтры працуе вялікая школа, існуе незалежна ад таго, ці пра гэта пішуць у газетах, ці прамоўчваюць. Рашэнне ў гэтай справе належыць гмінным самаўрадавым уладам. У наступным годзе ў гміне Кляшчэлі будуць закрыты школы ў Саках і Дашах, а дзеткі пяройдуць вучыцца ў прыгожы будынак у самім Кляшчэлях.

**Міхал Мінцэвіч**

# Папраўка

У папярэднім нумары „Нівы" (ад 7 снежня 1997 года) здарылася прыкрая памылка. Падчас друку на 9 старонцы былі перастаноўлены здымкі, у выніку чаго пад артыкулам Міколы Ваўранюка „І дзеці ўнеслі свой уклад" пра ўдзел дзетак з беларускага прадшколля ў дабрачынным канцэрце ў беластоцкай філармоніі віднеецца фатаграфія дзяцей з Орлі, а пад артыкулам Міхала Мінцэвіча „Ахвотна вучацца роднай мове", у якім піша ён пра арлянскіх другакласнікаў, змешчаны здымак беластоцкіх дашкольнікаў. За дапушчаную памылку аўтараў, герояў артыкулаў і чытачоў сардэчна перапрашаем.

**Рэдакцыя**


# Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляріі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na II kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Фрашкі пра нашых**

## Яніна

Яна — як простая лінія,
Беззаганная і нявінная.
Краса яе тонкая, вечная,
Калі таропіць вочы ў яе.
Неабходная, патрэбная...
Ды хвалапеннямі грэбуе.

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* На жаль, чалавек набіраецца розуму тады, калі ён яму ўжо да нічога не прыдатны.

* Толькі таго сумленне не мучыць, хто яго не мае.

* Ніякая хвароба не даставіць столькі болю, колькі само жыццё.

* Любоў і нянавісць з адной выводзяцца крыніцы.

* Калі глядзіш уперад — жыццё доўгае, калі азірнешся назад — яно здасца хвілінкай.

**Пётр Байко**

# Ніўка




*Малюнак Я. БУСЛА*

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Сасмаглы турыст спатыкаецца аб лежачага на парозе піўнушкі п'янюгу:

— Эй, сябра! Ці ты тут ляжыш у якасці рэкламы?

* * *

Пад кіёск з півам падыходзіць Грыша:

— Піва ёсць?
— Ёсць.
— Налівайце! Колькі каштуе?
— Два злоты.
— Вылівайце назад!

* * *

У забягалаўку ўваходзіць Мікола.

— Што сёння табе падаць, — пытае яго афіцыянтка, — гарэлку ці віно?

— І піва таксама!

* * *

— Татачка! Мама гаварыла, што піва падаражэла і цяпер будзеш менш піць...

— Маці памылілася, сыночак; цяпер ты будзеш менш есці.

* * *

— Як тваё сумленне дазваляе табе усчынаць скандал, калі куплю сабе бутэльку піва? — жаліцца муж. — То ж ты за атрыманыя за тыя бутэлькі грошы справіла сабе кажух!..

* * *

Парачка на шпацыры:

— Ох, каханы! — кажа яна. — Не магу выказаць таго пачуцця, якое парушае ўсё маё нутро...

— І са мною тое ж самае. Не трэба было тых сліў папіваць півам!

* * *

— Не ідзі сёння на піва, — просіць яна яго. — Сама буду нудзіцца...

— Спачуваю табе, але калі астануся, тады будзем нудзіцца абое.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Маёй маці здарылася ў Беластоку ідыятычная прыгода...

— Што ты скажаш! А я ж думала, што ты нарадзілася ў Бельску.

* * *

— Што чуваць у твайго мужа?
— Ляжыць у бальніцы.
— А на што наракае?
— На брак піва.

**У кіпцюрах цецерука**

## Кулінарныя парады

Першы снег — гэта найлепшы знак, што набліжаецца час інтэнсіўнага застолля. Пасля натужлівай працы рук і мазгавых апаратаў, пара загнаць да работы зубы, страўнікі, печані і другія прадстаўнікі чалавечых вантробаў.

Вядома, што пераважная большасць застольнікаў астанецца верная традыцыйнай кухні — банальным карпам у студзіне, ляшчом па-беластоцку, катлетай de volaille ды курапаткам тушаным у сметанковым соусе. Гэта вядома. Народ у нас кансерватыўны і калі ўжо пакахае — тады да смерці. Жаваць даўно пералсаванае — нам не страшна. Мы прывыклі. Нам смачна.

Аматарам нетрадыцыйнай кухні, усім — хто праяўляе прагу да нязвыклых смакавых прыгод, як і тым — хто перш за ўсё стараецца дагадзіць сваўму паднябенню, прапаную новыя, хаця ўжо крыху спрактыкаваныя ласункі.

**I. Сексацыйны фільм па-польску**

Патрэбныя прадукты: фігара — 1 шт., пазара — 1 шт., лында — 1 шт., мафіозі, абавязкова постсавецкі — 1 шт.

Прыправы незаменныя: агнястрэльная зброя: кароткая — 1 вагон, доўгая — 1 вагон, наркотыкі — 1 вагон.

Прыправы на ўсякі выпадак: атамная бомба — 1 шт.

Фігару абабраць з вопраткі, спаласкаць пад душам (можна і ў ванне). Асушыць у пасцелі. Сухую фігару варыць, шчыльна прыкрыўшы пазарай, а калі закіпіць — зняць пазару, прыкрыць лындай і яшчэ раз давесці да пункту кіпення. Вараную фігару — як прадукт ужо лішні — адставіць у куток. Мафіозі пасыпаць наркотыкамі і памаленьку варыць у агні кароткай і доўгай зброі.

Час падрыхтоўкі — 2 гадзіны, калі аднак не хапае вам часу — агнястрэльную зброю можаце заступіць атамнай бомбай і страва атрымоўваецца вокамгненна.

Заўвага I: рыхтуючы страву ўвесь час паўтараць шчыра і гучна слова „курва”, а яда будзе больш сакавітая.

Заўвага II: даваць на стол са спіртам маркі „Раял”, іначай неспрыяльна ўплывае на нервовую сістэму.

**II. Апалітычны булён па-беларуску**

Патрэбныя прадукты: кандыдат — спелы, выгадаваны без салітры, аміяку, палітыкі і іншых элементаў штучнага ўгнаення — 1 шт.

Прыправы незаменныя: фэсты, выканаўцы, народныя песні, дзяржаўныя і самаўрадавыя датацыі — штук — сколько угодно.

Прыправы на ўсякі выпадак: прэзідэнт — 1 шт., прэм'ер-міністр — 1 шт.

Кандыдата начыніць датацыяй, паставіць на сцэну і варыць. Каб страва не смярдзела палітыкай — густа пасыпваць нотамі народнай музыкі.

Пажыўная вартасць аднае порцыі — каля 1 670 калорыяў.

Час падрыхтоўкі — 40 гадоў плюс 1 лета.

Заўвага I: калі вам не хапае часу, бо, скажам, канкурэнтная кухня рыхтуе сваю папу-вапу, традыцыйныя, фальклорныя прылады заступіце хуткаварам, змайстраваным са спалучэння 1 шт. прэзідэнта з 1 шт. прэм'ер-міністра. У такім выпадку час падрыхтоўкі скарачаецца да аднаго дня.

Заўвага II: даваць на стол са спіртам маркі „Раял”, іначай на другі дзень я... пахмелле.

Пад такую закуску смела ўлівайце 3 літры 95% спірту на кожны адзін здаровы страўнік. Пасля доўгіх, назойлівых і ўтомных эксперыментаў, з поўнай аддадасцю праведзеных на ўласным арганізме, даю вам абсалютную гарантыю, што астанецеся ў жывых.

**Міхась Андрасюк**

## *Сардэчныя* ТАЙНЫ

Сэрцайка! Калі мы з сяброўкамі прачыталі ліст Касі, надрукаваны ў „Ніве” н-р 48 ад 30 лістапада 1997 года, была гарачая дыскусія.

Па-першае, Кася ў адносінах да цябе няшчырая, бо піша, што ішла толькі „на каву”. А праўда выглядае так, што нават суд, калі б разглядаў справу аб гвалце, не прызнаў бы ў гэтым выпадку рацыі дзяўчыне. Яна ж свядома ішла на кватэру да гэтага хлопца, ніхто яе туды сілком не зацягнуў. Мелася б на думцы, што яна ведала, чаго туды ідзе.

Кася ішла на тую „каву”, быццам несвядомая, наіўная дзяўчынка, „брыдкае качаня”, якое: ніколі ні з кім, а пасля высветлілася, што гэта „качаня” ўжо даволі вопытнае і ніякія адхіленні ад норм у палавых зносінах яе ніколечкі не здзівілі. Больш таго, усё гэта далo ёй столькі радасці, што і дух у яе заняло.

Усё, кажа яна, што гэты хлопец рабіў, было „небанальнае, з пэўнай дозай іншасці”. Ну, пэўна, калі браў трыццаць дзяўчат у месяц „на хату”, дык увесь час тое самае рабіць — відома, прыесца! Тут, даражэнькія, думаць трэба. А будзеш думаць — дык нешта і прыдумаеш. А Кася, дурніца, меркавала, што так ужо ён у яе і закахаўся без памяці.

Сумная з'ява, але, хаця бушуе „снід”, ці „эйдс”, як у нас яго часцей называюць, ёсць людзі, якія яго зусім не баяцца. Знаёмства ў іх вельмі часта пачынаецца ад пасцелі. І гэта яны называюць „кавай”.

А ў пасцелі яны што робяць?! Іншаму такое і ў галаву не прыйдзе. Чула я, што яшчэ горш бывае, чым у Касі. Цяпер жа гэтых секс-шопаў на кожным кроку поўна. Накупляюць рознага паскудства там, панадзяваюць сабе на тыя, як пішаце вы, габарыты, а тады ўжо толькі герояў адыгрываюць. А ты будзь добры, спрабуй так без нічога! А іншы, той, што грошай на тыя цацкі шкадуе, дык і бутэлькай дзяўчыну патрапіць задаволіць. Во ў якія мы часы жывем. Мяне дык выхавалі, што кахацца трэба „па-божаму”, каб было, як сярод людзей быць павінна, а не як сярод малпаў нейкіх.

Даражэнькае Сэрцайка! Мо лепш было б, каб ты такіх лістоў не публікавала. Яны толькі спрыяюць разбэшчванню моладзі, а яна павінна вучыцца, а не пра такое гадасць разважляць. Напісала я, што думала, ды не толькі я, але і ўсе мае сяброўкі.

**Аліна**

Аліна, даражэнькая, а тваім сяброўкам ужо колькі? Забыліся ўжо, пэўна, як у маладосці было. А чалавек, калі ён малады, закаханы і... нармальны, ён любіць кахацца. І, мушу цябе расчараваць прынамсі ў адным: калі двое людзей маюць адзін да другога глыбокія пачуцці, яны могуць рабіць **усё**.

Не зразумей мяне, дальбог, так, што я ва ўсім падтрымліваю Касю. Я не кажу, што дзяўчына, як толькі ўбачыць прыгожага хлопца, павінна адразу бегчы з ім у пасцель і там „даказваць”.

Але калі хлопец і дзяўчына не могуць жыць адно без другога... Тады галоўнае, каб яны мелі задавальненне з кахання. А асабліва датычыць гэта пар, якія жывуць разам і кахаюцца многа гадоў. Скажы сама, Алінка, ці не лепш „прыдумаць” нешта новае ў хаце, чым браць штораз іншую дзяўчыну „на баку”?

Галоўнае, каб людзям было прыемна. Калі ніхто нікога не прымушае рабіць тыя „гадасці”, калі яны самі гэта робяць з радасцю і з вялікай ахвотай, то не можа яно быць кепскае.

А што датычыць твайго наракання на нашыя часы, дык калі б не той халерны „эйдс”, дык усё ішло б нармальна. У кожныя часы чалавек гэта ёсць чалавек, і ўсё, што чалавечае — яму не чужое. А чытала ты пра рымскія лазні, пра Калігулу?.. А мо аглядала старыя індыйскія барэльефы?.. А ўрэшце, можа калісь трапіў ў твае рукі „Дзённік Казановы”?

Усё цячэ, усё змяняецца, а чалавек застаецца пакуль што чалавекам.

**Сэрцайка**